Пераклад Васіля Раманава 2013 г.

# Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі

# Нарысы сямейнага звычайнага права сялян Менскай губерніі[1]

Прапанаваныя нарысы заснаваны на матэрыялах із трох крыніц:

- рашэнні валасных судоў запісаныя аўтарам у Рэчыцкім, Бабруйскім і Пінскім уездах[2];
- асабістыя назіранні;
- адказ некалькіх асоб з Менскага, Навагрудскага і Мазырскага ўездаў, пастаянных жыхароў беларускіх вёсак, абавязкова паведамляўшых свае назіранні на прапанаваныя ім аўтарам пытанні.

Калі ў асабістых назіраннях і паведамленнях заўсёды можна прадугледжваць некаторую долю субектыўных адносін да пытання, то рашэнні валасных суддзяў, як акт, можа быць найбольш аб'ектыўнай крыніцай для вывучэння прававога боку народнага жыцця.

Пагэтаму, наўрад ці праўдзівыя тыя скептычныя адносіны да вывадаў, заснаваных на гэтым матэрыяле, якія часцяком з'яўляюцца ў нашай юрыдычнай літаратуры і падтрымліваюцца нават такімі выдатнымі юрыстамі як Аршанскі[3] і М. М. Кавалеўскі[4], якія спасылаюцца на самавольства "нецвярозага" пісара. З такім поглядам на рашэнні валасных судоў, як на крыніцу звычайнага права, цяжка згадзіцца, ва ўсякім разе згодна з нашым назіраннем.

Перш за ўсё ў рашэннях валасных судоў мы назіраем іх аднолькавыя адносіны ў дачыненні аднолькавых спраў у розных месцах і ў розны час, што гаворыць аб тым, што розныя рашэнні ёсць акты звычайнага права, а не выдумкі пісара. З іншага боку, маючы на ўвазе гістарычныя дадзеныя, мы можам пераканацца, што сучасныя нормы звычайнага права беларусаў адпавядаюць тым дадзеным, якія мы можам здабыць з гістарычных крыніц, ва ўсякім разе за трыста гадоў да нашага часу[5]. Больш таго, у нашых рашэннях мы не аднойчы

---

1) "Этнографическое Обозрѣніе" 1897 г.

2) Пад час сваіх вандровак я зрабіў выпіскі рашэнняў валасных судоў Целяханскай воласьці (Пінскі ўезд), Гарбацэвічскай вол. (Бабруйскі ўезд), Дзёрнавічскай вол. (Рэчыцкі ўезд) у колькасьці звыш 270 запісаў. Звыш гэтага я займаўся абзорам валасных рашэнняў іншых валасьцей: Добраслаўскай, Пагост-Загародскай Пінскага ўезда, Ігуменскага ўезда, Гарадскога Бабруйскага ўезда і некаторых іншых.

3) Аршанскі. Народны суд і народнае права 390

4) Глядзіце яго артыкул у Nouvelle Revue historique du droit etc., 1890, травень-чэрвень "Etudes sur le droit coutumier russe" увядзенне.

5) Гл. цікавы артыкул праф. Уладзімірскага-Буданава ў "Чтених Истор. Общ. Летоп. Нестора Киев т. III

сустракаем указанне на тое, што тая або іншая справа вырашана па “мясцоваму звычаю”. А ў адной справе мы нават сустрэлі цікавую барацьбу мясцовых звычаяў з уладай “Прысуствія па сялянскіх справах”: яно чатыры разы скасоўвала рашэнне і кожны раз валасны суддзя, обапіраючыся на “мясцовы звычай” выносіў тое ж самае рашэнне.

Праўда, у галіне крымінальных рашэнняў можна сустрэць, асабліва за апошнія 3-5 гадоў, больш шматлікія выпадкі выкарыстання “Улажэння аб пакараннях”. Гэта зразумела: асновы звычайна-прававых поглядаў так ці інакш з цягам часу размываюцца, ускладненне жыцця ускладняе і робіць больш разнастайнымі праступкі, для мяркавання аб якіх яшчэ не выпрацаваўся звычай, а між іншым зладжаннасць і выразнасць нашага ўлажэння аб пакараннях падкупляе суддзяў. Але ў сферу сямейных адносін, пісаны закон яшчэ не прасачыўся: традыцыі сям’і надзвычай каштоўныя для селяніна, наша ж заканадаўства мала прыстасавана да сялянскага жыцця і тут валасному суддзі, больш чым дзе прыходзіцца карыстацца заветамі продкаў, прыстасоўваць іх да новых жыццёвых патрабаванняў, абараняючы ўсякую дробязь народных традыцый.

Усё гэта дазваляе нам бачыць у рашэннях валаснога суду найбольш праўдзывую крыніцу народна-звычайнага права.

Паклаўшы, такім чынам, у аснову гэтага артыкула рашэнні валасных судоў, мы, між іншым, выкладаем па магчымасьці і тое, што нам вядома із асабістых назіранняў і роспытаў.

Што да спосабу выкарыстання ўсіх гэтых крыніц, то была прынята да ўвагі магчымасць разнастайных адхіленняў у сферы звычайнага права ў залежнасьці ад мясцовых умоў. Каб не прынімаць асобнасць за агульнае правіла я памячаю ў дужках уезды і воласьці, дзе заўважана такое адхіленне. Асабліва я старанна выдзяляю ўсе звычайна-прававыя асаблівасьці Пінскага ўезда – хоць іх атрымалася вельмі мала – так як яго насельніцтва адрозніваецца ад насельніцтвам іншых уездаў.

На прыканцы гэтых папярэдніх заўваг я не магу не адзначыць, што прапанаваны артыкул далёка не вычэрпвае увесь сабраны мной матэрыял, уяўляючы сабой толькі кароткі яго агляд, толькі галоўныя факты і вывады, папаўненне якіх было б вельмі пажадана.

## I

Зараз пяройдзем да тэмы артыкула. Перш за ўсё разглядзім пытанне аб тым, якую форму сям’і мы павінны прызнаць пераважаючай у беларусаў разглядаемай мясцовасьці. Тэрміналогія для абазначэння відаў сям’і, як вядома, далёка яшчэ не распрацавана. Існуючыя назвы *вялікая, малая*, сям’я *простая* і *складаная сямейная абшчына*[6] ужываюцца не ў адным і тым жа значэнні. А пагэтаму трэба заўважыць што мы будзем, ідучы за больш распаўсюджанай

6) Гл. Пахман, Звычайнае права т. II стр.137

тэрміналогіяй, называць малай сямьёй такую, якая складаецца з бацькоў і неадружаных дзяцей, а вялікай – такую ў якой бацькі жывуць з разам з адружанымі дзецьмі і сямейнай абшчынай такую форму сям'і, калі разам жывуць браты або дзядзькі з пляменнікамі, здольнікі і інш.

І так, якую ж форму сям'і, з трох названых, можна тут прызнаць пераважаючай? На гэта патанне адназначна адказаць нельга. Справа у тым, што падзелы робяць сваю справу, яны прасочваюцца не толькі ў сямейную абшчыну і раскладаюць яе, але ўсё часьцей і часьцей заўважаецца адзяленне жанатых сыноў ад бацькі. Пагэтаму і адказ на гэта пытанне можа быць дадзены толькі прыблізна. Я думаю, што наўрад ці будзе памылкай, калі прызнаць пераважнай формай сям'і ў Менскай губерніі – сям'ю вялікую. Аддзяленне сыноў пры жыцці бацькі, як пабачым, усё яшчэ лічыцца з'явай незвычайнай, абумоўленай спецыяльным становішчам той ці іншай сям'і і не прызнаваемай за агульнае правіла.

Імкненне да педзелу пры жыцці бацькоў заўважаецца толькі дзе нідзе ў разных мясцовасьцях: у адных месцах такіх з'яў зусім няма, у іншых, наадварот, менавіта гэта апошнняя форма заўважаецца ўсё часьцей і часьцей, з кожным годам лік такіх сямей павялічваецца і ўжо ўтвараюцца прававыя нормы, вызначаючыя парадак падзелу. Так, напрыклад, у Дзёрнавічскай воласьці[7] (паўночна-усходні куток Рэчыцкага уезда) адзяленне сыноў пры жыцці бацькі амаль невядома. Калі такое здараецца то падзел далёка не поўны: бацька будуе сынам на сваім двары асобныя хаты ў якіх жывуць новыя сем'і, але зямля, быдла, прылады працы знаходяцца ў агульным уладанні: разам працуюць, разам і ядуць. Кожная сям'я, у такім выпадку, у асобным уладанні мае вопратку, дробныя рэчы і асабіста ёю заробленыя грошы і інш., гэта значыць назіраюцца такія ж самыя адносіны, як і ў сям'і жывучай пад адным дахам. Абвостраных адносін паміж бацькай і сынамі, вызваных падзелам зямлі і быдла амаль не сустракаецца. Мясцовы суд (за 60 гадоў да нашага часу) не разлядаў ніводнай справы дзе б сыны скардзіліся на бацьку ці наадварот.

Тое ж самае можна сказаць у адносінах шмат іншых мясцовасьцей Рэчыцкага, Мазырскага, Менскага і Навагрудскага уездаў, дзе мне даводзілася быць асабіста ці адкуль маюцца паведамленні.

Вельмі арыгінальную з'яву мы назіраем у Пінскім уездзе. Глухое Палессе, забалочаннасць гэтай мясцовасьці, параўнальна першабытны стан усяго светапогляду пінчука спрыялі захаванню шматлікіх асаблівасьцей быту у шматлікіх адносінах. Але не гледзячы на ўсё гэта, менавіта тут, распадзенне вялікай сям'і і сямейнай абшчыны ідзе найбольш хуткімі тэмпамі. Падзелы тут ахапілі павальна ўвесь уезд і менавіта ў самыя апошнія гады. Яшчэ пакаленне сярэдняга ўзросту іх не ведала, глядзіць з жахам на тое, што робяць маладыя, але прымірaецца з непазбежнасьцю. Нормы падзелаў яшчэ не ўсталяваліся: валасныя ўстанавы перапоўнены скаргамі бацькоў і дзяцей адзін на аднаго,

---

7) Цяпер вёска Дёрнавічы Нараўлянскага раёна Гомельскай вобласьці. Перастала існаваць у 1986 годзе пасля высяленняў звязаных з аврыяй на Чарнобыльскай АЭС.

паказваючы на самыя жрсткія адносіны тых і другіх. Але яшчэ больш цікава тое, што менавіта тут мы знаходзім найбольш тыповыя астаткі не толькі вялікай сям'і ў найбольш строгім значэнні гэтага слова, але і сямейнай абшчыны. Далей мы пабачым, што эканамічныя прычыны застаўляюць тут хутка распадацца вялікія сем'і і абшчыны. Але там дзе цяжар эканамічнага быту не давёў сям'ю да распаду, там у тым жа Пінскім уездзе мы сустракаем самыя чыстыя яе тыпы. Тут нярэдка мне даводзілася сустракаць сямейныя абшчыны 15-25 чалавек, тады як, між іншым, у іншых уездах такія абшчыны былі вялікай рэдкасьцю. Я маю толькі некалькі кароткіх указанняў на існаванне у некаторых мясцовасьцях Менскага уезда абшчын у 25-30 чалавек і нават 50, у Бабруйскім уездзе сустракаліcь сем'і у 17 чалавек. Такім чынам відавочна, што тады як у беларускіх уездах Менскай губерніі сямейная абшчына ўяўляе сабой аджываючы тып і нармальным тыпам сям'і мы павінны прызнаць вялікую сям'ю, імкнучуюся, у сваю чаргу перайсці ў малую, - у Пінскім уездзе мы, вегодна, прісутнічаем пры непасрэдным пераходзе сямейнай абшчыны у малую сям'ю. Пры гэтым тып вялікай сям'і не з'яўляецца тут невядомым, але ён яшчэ не паспеў укараніцца, пранізаць усе слаі насельніцтва, як раптам новыя адносіны адразу вызываюць пераход да яшчэ больш простай формы сям'і – малой сям'і. З прычыны ўсё больш памнажаючыхся падзелаў, у некаторых мясцовасьцях прызнаецца нават больш зручным падзел пры жыцці бацькі, каб папярэдзіць сваркі пасля сьмерці кіраўніка сям'і. Такі парадак выпрацоўваецца, напрыклад, у Гарбацэвічскай і Гарадокскай валасцях Бабруйскага уезда.

Такое агульнае уражанне, якое выносіць назіральнік.

Але каб даць чытачу больш свядомае уяўленне аб складзе сямейнай абшчыны мы пакажам некалькі прыкладаў, з маючыхся ў нас, рашэнняў валасных судоў аб асобах, якія уваходзяць у склад абшчын. Такая спраўка дасць магчымасць ясна уявіць сабе ўзаемаадносіны сябраў абшчыны, хаця павінны папярэдзіць, што яна не можа даць дадзеных для вывадаў аб колькасных адносінах абшчыны да ўсёй сям'і, як бы не было апошняе пажаданым. Акрамя таго тут мы можам пабачыць і ступень жыццяздольнасьці гэтага інстытуту ў сялянскім асяродку: чым больш далёкая ступень радства паміж сумесна жывучымі асобамі, тым большую сілу, як нам здаецца, павінен мець сам інстытут.

Часьцей за ўсё мы сустракаем жывучых разам родных сямейных братоў. Такіх абшчын паўсюдна мне даводзілася сустракаць вельмі шмат і яны уяўляюць сабой звычайны і найбольш просты від сямейных абшчын. Часам такая сям'я утрымліваецца да самой сьмерці братоў ці аднаго із братоў і разладжваецца толькі дваюроднымі братамі, хоць часта даводзіцца бачыць як пасівеўшыя браты разыходяцца па асобных гаспадарках, часьцей за ўсе з прычыны нязгоды сярод малодшых прадстаўнікоў. Затым сустракаем указанні на сумеснае пражыванне дзядзяк з пляменікамі; із аднаго рашэння бачна, што два дзядзькі жылі з пляменнікам, абшчына распалася, прычым пляменік застаўся жыць з адным з дзядзяк: такое сумеснае пражыванне бывае настолькі доўгім, што пляменік аддзяляецца з ужо дарослымі сынамі (Рэчыцкі і Бабруйскі уезды). Але такая

абшчына, заснаваная на чыста сваяцкіх і прытым спрыяльных адносінах, уяўляе з’яву дастаткова зразумелую, як слыбыя перажыткі радавой абшчыны.

Для нас асаблівы інтарэс прадстаўляюць выпадкі згуртавання *штучнай* абшчыны, ці, ва ўсякім разе, такой абшчыны ў якой чальцы не звязаны блізкім сваяцтвам і для сумеснага пражывання павінны былі прыйці да нейкай згоды.

Я прывяду некалькі прыкладаў із рашэнняў валасных судоў. Так аднасельцы Карней і Антон Барысевічы у вёсцы Азарычах Пінскага ўезда (з іншай справы відаць, што яны нават не лічаць сябе сваякамі) згадзіліся жыць разам, пры гэтым Карней прыняў на сябе гаспадарку Антона. Апошні “пражыў сем гадоў, прывёў Карнееву гаспадарку ў працвітаючы стан, працаваў як сам, так і яго жонка і выкупіў участак зямлі Карнея, які быў у арэндзе ў габрэя за трыццаць рублёў”. Карней выганяе Антона з дому і пагэтаму апошні патрабуе за сваю працу 100 рублёў. Карней прызнаў працу Антона і задаволіў запыт апошняга. Антон лічыўся у сям’і Карнея - *сем’янінам* – звычайны тэрмін для такіх адносін у доме, сем’янінам часам называлі і далёкіх сваякоў жывучых разам.

У Бабруйскім уездзе прынятыя у сям’ю ў якасьці сем’яніна носяць назву *здольнікаў* і такая форма абшчыны тут дастаткова распаўсюджаная, не гледзячы на адначасова нарастаючае распадзенне вялікай сям’і. І тут здольніцтва выклікаецца чыста эканамічнымі прычынамі: удава застаецца з малымі дзецьмі, не можа сама кіраваць гаспадаркай і прымае да сябе здольніка; захудалы па тых ці іншых прычынах гаспадар таксама шукае для сябе здольніка са здаровымі рукамі, а калі-некалі і з гаспадарчымі прыладамі. Для большай трываласьці дамовы, абодва бакі заключалі фармальную дамову ў валасным праўленні. У дамове дакладна вызначаецца ў якіх адносінах стояць абодва бакі, хто з іх будзе адказваць за гаспадарку, але самую асноўную частку дамовы складаюць умовы аб зямлі[8]. Здольніка або сем’яніна народ ніколі не блытае з прыёмышам.

---

8) Прывядзем два прыклады дамовы здольніка з гаспадаром: “1876 года, февраля 19 дня, мы, крестьяне с. Дѣдко вдова Парасковія Росликъ и Иванъ Трухан заключили условіе в слѣдующемъ: 1. Я, Парасковія Рослікъ, будучи въ немолодомъ вѣкѣ и оставшись вдовою съ малолѣтнимъ сыномъ Петромъ, не въ силахъ сама удержать оставшагося послѣ мужа моего хозяйства и обрабатывать землю и уплачивать за оную платежи, за лучше признала для поддержанія себя и хозяйства принять въ домъ свой Ивана Трухина, который обязанъ управлятъ всъмъ хозяйствомъ, смотрѣтъ за онымъ как за своимъ собственныъ, меня уважать какъ старшую, а малолѣтняго сына моего до достиженія совершенныхъ лѣтъ воспитывать, как свое собсвенное дитя; за что по смерти моей ИванъТруханъ вступитъ въ права наслѣдства наравнѣ съ сыномъ моимъ Петромъ, т. Е. половину всего движимого имущества и половинную часть земли; на случай же Иван Трухинъ долго не захочетъ находиться у меня и не будет смотрѣть за хозяйсивомъ, то я удерживать права имѣть не буду, но тогда къ половинѣ хозяйства и земли Иванъ Трухинъ права имѣть не будет, а когда проживетъ со мною до совершеннолѣтія сына моего Петра, тогда будетъ имѣть право къ половинной части. Ни я, ни сынъ мой прекословить въ отдачѣ части не будемъ, причемъ вмѣняю в обязанность Ивану и то, что уплата денегъ за разныя казенныя повинности лежать должна на обязанности его, Ивана, а зарабатывать деньги на эти надобности обязаны вмѣсте с сыномъ Петромъ – 2. Я Иванъ Труханъ, на все предложенное 1 пунктомъ вдовою Просковіею Росликъ согласенъ и обязан исполнить въ точносьти.» Подпісы. (Гарбацэвічская воласць, кніга спраў 1876 г. ст.2)

“1874 год апрѣля 29 дня мы, нижеподписавшіеся, крест. Дер. Богушовки, Иван Корбутъ и Константинъ Тарасевичъ, заключили условіе в ъ слѣдующемъ: Я, Иванъ Корбутъ, будучи бездѣтнымъ и не в состояніи выплачивать за отведенный мнѣ участокъ земли подъ №13 и обрабатывать оный, уступаю крестьянину одной со мною деревни Константину Тарасевичу, и считая занимаемой имъ на моемъ участкѣ усадебной земли, - половину всей пахотной сѣнокосной и подъ лѣсом въ количествѣ 9 десятинъ.

Прыёмыш гэта той хто прыняты ў дзяцінстве за *сына*, або за *дачку*. Мне не аднойчы даводзіласяназіраць, што сяляне раздзяляюць нават паміж прыёмышам за сына, ад прыёмыша, які вырасшы засстаецца ў сям'і ўжо ў якасьці здольніка. Гаспадар не будзе называць такога прыёмыша сынам, а прыемыш гаспадара – бацькай. У Бабруйскім уездзе поўны прыёмыш з дзесяці гадоў лічыцца у сям'і здольнікам.

Здольнік, прыходячы у прымаючую яго сям'ю, часта прыносіць з сабой і сваю долю маёмасьці, у выглядзе прылад для працы, налічных грошай ці, нават, зямлі. Так, у адным выпадку, здольнік прынёс "40 руб., сала, муку і разную гаспадарчую рухлядзь" (Бабруйск). У іншым выпадку спрэчка ішла за засеяннае жытам такога здольніка поле (Пінск); адзін сем'янін у Дзёрнавічскай воласьці прынёс 3,5 асьміны жыта, 1 асьміну аўса, 10 гарнцаў ячменю, 1 асьміну ярыцы, 10 гарнцаў бульбы і г. д. Адным словам, акрамя сваёй працы, прыносіцца яшчэ і капітал.

Становішча, якое займае сем'янін у сям'і залежыць ад тых умоў, пры якіх ён быў прыняты. Калі прыймаючы яго сам кіруе гаспадаркай, то здольнік ставіцца малодшай, падпарадкаванай асобай у сям'і. Аднак, напрыклад, рашэнне суду так вызначае становішча такога здольніка: ён прыняты у сям'ю "як сваяк", "з тым, што ён абавязаны працаваць у яго, Якіма, гаспадарцы, як у сваёй асабістай, несьці належнае паслушэнства і знаходзіцца з Якімам да канца жыцця." (Бабруйскі уезд). Але калі ў сям'і няма гаспадара, ці гаспадар памірае, астаўляючы малодшых асоб сям'і, то здольнік пачынае кіраваць гаспадаркай, і яго прэрагатывы ў адносінах да астатніх членаў сям'і нічым не адрозніваюцца ад улады і значэння кіраўніка сям'і, гаспадара. Так, напрыклад, чалавек і жонка Навумчыкі і іхны сын Кавалька (пасынак Навумчыка) скардзіліся суду на уціск з боку іх сем'яніна – кіраўніка і прасілі падзелу. Суд не толькі не задаволіў іх запыт, таму што кіраўнік сям'і не згаджаўся з гэтым, але нават пакараў Хрысьціну Навумчык, якая была прызнана вінаватай ва ўзнікшай у сям'і спрэчцы (Дзёрнавічская воласць). У адным судзебным рашэнні мы нават сустракаем свайго роду павучэнне суду, што калі сем'янін "як старэйшы кіруе гаспадаркай пасля сьмерці бацькі (г. зн. былога гаспадара), то яму астатнія члены сям'і павінны павінавацца як старэйшаму".

Мэта, яднаючая гэтыя штучныя сямейныя абшчыны, - гэта агульная праца: адзін з удзелькаў мае зямлю, але чамусьці не можа патрэбным чынам яе

---

Постройка, произведенная Тарасевичемъ, должна оставаться за нимъ и не тронутой съ занимаемого ею теперь мѣста, при чемь ставлю въ условіе, что плату за половину участка должен вносить Тарасевичъ; кромѣ того онъ долженъ отбывать всѣ общественныя и натуральныя повинности за полный участокъ, т. е. какъ за свою, такъ и за мою половину надѣла и уплачивать за меня мірской сборъ. За полъ-участка же, который я оставляю за собой, я должн выкупной плаежъ вносить самъ, а также казенныя подати лежать на мнѣ. Обязательства, налагаемыя мною на Тарасевича, обязательны для него до смерти моей и жены моей или же до переуступки мною законно оставленного себѣ полъ-участка земли другому лицу, въ такомъ случаѣ Тарасевич всѣ причитающіеся платежи и повинности долженъ нести за полъ-участка. – Я Константинъ Тарасевичъ, принимаю въ свое вѣчное и потомства моего пользованіе переуступленный мнѣ Иваномъ Корбутомъ полъ-участка земли, всѣ вышеположенные на меня обязательства долженъ исполнять. Условіе же, заключенное между нами на счетъ участка земли въ 1867 г. апреля 2 дня, настоящимъ условием уничтожается и теряет силу.» Подпісы (Там жа кн. 1874 г., ст.2)

апрацаваць, праз адсутнась быдла, сямян і інш. Другі ж прыносіць не толькі сваю працу, якую ён затрачвае на апрацоўку зямлі, але таксама і кекаторую маёмасць і за гэта атрымлівае права на маёмасць, атрымліваемую агульнымі высілкамі з моманту заключэння дагавору. Пагэтаму маёмасныя адносіны маюць вельмі значэнне ў такой сям’і. Не толькі рухомая маёмасць станавіцца агульнай уласнасцю, але і зямля. Тэрмін дамовы які маецца на ўвазе, або прама абазначаны ва ўмовах, - смерць аднаго з дамаўлячыхся. Калі тэрмін выкананы, то здольнік ці яго нашчадкі набываюць такія ж правы на зямлю, як і члены сям’і – сваякі.

Права здольніка на зямлю у народным уяўленні мае вялікае значэнне і валасны суд, хоць такая перадача надзельнай зямлі і не знаходзіць сабе падтрымкі ў асяродку сябраў сялянскіх прысутных, тым не менш прыкладае усе намаганні для падцвярджэння праў здольніка, выдзяляючы яму частку зямлі, як і прамым нашчадкам.[9] Калі нашчадкаў няма, то зямля уся павінна перайсьці да здольніка. Калі нікалі такія дамовы разладжваліс да заканчэння тэрміну: у такім выпадку рашэнне суду залежала ад умоў дамовы і ад прычын, чаму сям’я распалась. Так, як бачна із аднаго рашэння, дзядзька прыняў да сябе пляменніка “у дапамогу сабе” (значыць у якасьці здольніка), але апошні сышоў, прычым усётакі атрымаў ад дзядзі шэсць дзесяцін зямлі. У другім выпадку была заключана умова, тэрмін якой заканчваўся разам са смерцю прынімаўшага; зямля павінна была перайсьці ва усабістае валоданне здольніка, але бакі пасварыліся і разышліся, у выніку здольнік атрымаў назад толькі ўнесенныя ім грошы. Часам, дарэчы, здольнік, патрабуе ад прыняўшага яго гаспадара плату за затрачанную на яго працу, бачучы, што дамова была парушана пры такіх абставінах, якія выключалі падзел зямлі, - і суд, у такіх выпадках, нікалі не адмаўляе.

У такіх выпадках, відавочна, прынімаецца ў разлік праца якую затрачвае сем’янін на апрацоўку зямлі, - прынцып, якога прытлімліваюцца беларусы і ў іншых выпадках, як пабачым ніжэй.

---

9) Прыводзім адно із такіх рашэнняў (Гарбацэвічская вол.): “Крест. дер. Сычкова Осипъ Рудакъ жаловался на односельца своего Антона Рудака, которыц получилъ въ надѣлъ при дѣйствияхъ Люстраціонной коммис іи его нынѣ покойный отецъ Корнѣй, а ему оставилъ въ пользование лишь одну третью часть. Такъ какъ Антонъ Рудакъ был только сдольникомъ его отца, то онъ, считая себя прямымъ наслѣдникомъ на оставшуюся послѣ смерти отца землю, проситъ судъ предоставить ему право пользоваться еще одною третью частію, т. е. двумя третями земли. – Спрошенный Антонъ Рудакъ показалъ, что онъ не желаетъ дать Осипу земли для пользованія потому, что у него большая семья и кромѣ, что землею онъ пользуется уже довольно долгое время. – Справка: по ревизской сказкѣ по дер. Сычковѣ под № 2 имѣется слѣдующая запись: Корнѣй Яковлевъ Рудакъ – умеръ% его сыновья: 1. Иванъ – умеръ, 2. Осипъ 12 лѣтъ. – Антонъ Петровъ 27 л., его сыновья: 1. Иван 2 л., и 2. Викторъ 1 года. – По выкупному акту по дер. Сычкова подъ №1 на имя Кирилла Яковлева Рудака записанъ участокъ земли в 22, 18, десят. Антонъ Рудакъ добавилъ, что этою землею онъ пользуется уже 17 лѣтъ. Волост. Судъ, по выслушаніи сторон и наведенной справкѣ изъ ревизскихъ сказокъ и выкупныхъ документовъ такогваго, разрѣшая настоящее дѣло, судъ нашелъ, что Осипъ Рудакъ до настоящаго времени не простиралъ претензій къ Антону Рудаку за землю уже около 17 лѣтъ, а потому судъ рѣшилъ: въ жалобѣ Осипу Рудаку отказать» Подпісы судззяў.

Усякая сям'я або сямейная абшчына, натуральная ці штучная, мае свайго прадстаўніка. Ён не носіць вызначанай назвы, як бальшак у вялікарускай ці дамачын у сербскай абшчыне; назва, якой выдзяляюць такога прадстаўніка сям'і, - гэта *гаспадар, бацька* для сыноў, *дзядзька* для жывучых у сям'і малодшых сваякоў і прынятых асоб. Значэнне такога гаспадара вызначаецца перш за ўсё тым, што ён кіруе усімі мужчынскімі працамі ў гаспадарцы. Ад яго залежыць, як размеркаваць працу, каму якое вызначыць заданне, што рабіць у той ці іншы дзень і г. д. Размеркаванне таго ці іншага задання робіцца вечарам, за вячэрай. Старэйшыя ў сям'і, дарослыя сыны, браты ці сем'яніны у абшчыне, прымаюць удзел у хатніх нарадах наконт размяркавання працы, але толькі ў значных выпадках. Перад пачаткам заворвання, жатвы, пакосу, перад прадажай збажыны, купляннем быдла, будоўляй і г. д., не гледзячы на тое, што ўсе сямейнікі не аднойчы абменьваліся думкамі і ужо пасьпелі прыйсьці да згоды на гэты конт, але ўсётакі гаспадару належыць афіцыйна пачаць размову аб гэтым за вячэрай, калі сіраву трэба рабіць назаўтра, ці за абедам у нядзелю. Перад жатвай, пакосам і інш. гаспадар яшчэ раз іде агледзець поле, сенажаць, прынесьці з сабой некалькі каласкоў, пучок траў; перад закупкай чаго-нібудзь, ці перад продажам, ён яшчэ раз вядзе даведванне, не гледзячы на тое, што раней і тое і другое і трэццяе яму было вядома, - і толькі тады пачынае гаворку, паведаміўшы вынікі папярэдніх вышукаў. Звычайна перш за усіх выказваюцца старэйшыя асобы, потым выказвае сваё меркаванне гаспадыня, а потым гаспадар робіць свае загады, размяркоўваючы заданні на наступны дзень: размеркаванне не складаных прац робіцца без нарады, самім гаспадаром. Але, нават старэйшыя члены сям'і не могуць што-нібудзь зрабіць без дазволу гаспадара. Калі хто-небудзь з сям'і лічыць патрэбным зрабіць тую ці іншую справу, пачаць ту ці іншую працу, то ён паведамляе аб гэтым гаспадару і прапануе яму зрабіць патрэбныя загады. Гаспадар амаль заўсёды бывае і казначэем сям'і; у яго захоўваюцца агульныя грошы, ён атрымлівае выручку ад продажаў, робіць выплаты і г. д. Дарэчы, часам гэтым займаецца гаспадыня. Нарэшце, яму ж належыць нагляд за паводзінамі малодшых членаў сям'і; ён сочыць за паводзінамі сваіх дочак і дочак сваіх саўдзельнікаў, назіраючы за іх сціпласьцю, за паводзінамі хлопцаў, застаўляе лянівых працаваць, карае вінаватых; адпускае на заробкі вольных ад агульных прац, аддае ў наём малодшых членаў сям'і, калі гэта патрэбна і т. д. Адзін з маіх карэспандэнтаў паведамляе, што ён у Пінскім і Мазыркім уездах сустракаў сем'і па 40 душ і ў іншых уездах па 25 і ўсюды у такіх сем'ях "воля бацькі, маці ці старэйшага дзядзькі абявазковая для ўсяго сямейства; без яго ведама нічога значнага ў сям'і не бывае, пры спрэчках усе звяртаюцца да яго пасрэдніцтва".

Гаспадар акружаны знакамі пашаны і павагі. За сталом ён садзіцца на самае паважнае месца – "на куту" – пад абразамі, так што сядзець на куце гэта сінонім гаспадара; астатнія члены сядзяць подач з ім па старшынству, жанчыны на працілеглым баку стала, гаспадыня заўсёды з краю. Ён прадстаўнік і захавальнік дамашняй дабрачыннасьці; ён вымаўляе агульную малітву перад ядой і пачынае есьці першым, а за ім астатнія па старшынству. Ён жа назірае за

святкаваннямі і выкананнем неабходных абрадаў; сярод апошніх асабліва значная роля належыць гаспадару, там дзе выказваецца павага душам памёршых продкаў; ён пад час дзядоў (памінальная вячэра) пасля малітвы прызывае душы памёрлых “дзядоў і бабак” “ на вячэру”, адлівае ім частку ежы на стол, ці ставіць за вакно на ноч і інш. Пабобныя абрады выконваюцца ім і пасля смерці каго-нібудзь з членаў сям’і.[10]

Бяспрэчна, што у гэтых рысах беларускага гаспадара лёгка прызнаць вялікарускага бальшака, сербскага дамачыча, наогул у ім праглядаюцца рысы вясковага домаўладыкі. Аднак улада гаспадара ў сям’і не бывае дэспатычнай, таму што ўсякая няпраўда з яго боку, усякае прыгняценне каго-нібудзь з членаў, неуемнае распараджэнне маёмасьцю, нявопытнасць яго ў размяркаванні прац, лянота, п’янства і г. д. немінуча вядзе да агульнага незадавальнення і заканчваецца падзелам ці, у рэдкіх выпадках, тым, што справу бярэ ў свае рукі хто-нібудзь із старэйшых, напрыклад, другі брат, ці старэйшы сын. Гаспадар можа і павінен рабіць толькі тое, што патрабуе агульны інтарэс сям’і, і толькі пры такіх адносінах і з такой мэтай ям у павінуюцца астатнія члены сям’і. Гаспадар, у той жа час, павінен быць умелым і добрым работнікам, каб мецць права павучаць і застаўляць іншых. На пакосе, напрыклад, гаспадар заўсёды станавіцца першым, з правага боку ад яго ўсе астатнія: ад хуткасьці працы першага касара залежыць праца астатніх, так як яны раўняюцца на першага і г. д. Гаспадар з’яўляецца прадстаўнікам і набытчыкам агульнай сямейнай маёмасьці, але ён не можа распараджацца ёю са шкодай для сям’і.

Для падцвярджэння сказанага аб уладзе старэйшага ў сям’і – незалежна ад яго сваяцкіх адносін – мы прывядзём характэрную вытрымку із аднаго судзебнага рашэння. З нагоды скаргі малодшых членаў сям’і на верхавода-здольніка , “суд паставіў: так як у гаспадарцы неабходна каб адзін з членаў сям’і быў галоўным і назіраў за парадкам у гаспадарцы, а астатнія члены павінны павінавацца яго ўладзе і выконваць усе яго законныя распараджэнні, без чаго не можа быць належачага парадку ў гаспадарцы, а пагэтаму, Восіпу (падатчыку скаргі на гаспадара), як нашмат малодшаму супраць Антона, унушыць павагу да Антона, як да старэйшай асобы і вядомай сваімі добрымі паводзінамі; а за сварку пакараць Восіпа 10 ударамі дубцом; а жонку Антона, як дазволіўшую сабе прысвоіць больш улады, чым дазваляе законны парадак, пасадзіць на адны суткі ў карцер; Антона ж за дадзенае паслабленне сваёй жонцы аштрафаваць на 75 капеек у мірскую суму” (Бабруйск). Такім быў досыць складаным прысуд суду. І гэта матывіроўка не выпадковая – яна толькі больш падрабязная за іншыя. У нашых рашэннях мы можам паказаць цэлы шэраг аналагічных павучэнняў як славесных так і цялесных малодшым чненам сям’і. Суд абавязвае малодшага брата “ ва ўсім павінавацца і слухацца старэйшага брата” слухацца бацьку, старэйшага родзіча і інш. – гэта паўтараецца ў шмат якіх рашэннях.

У адносінах да маёмасьці: бацька ці наогул старэйшы не можа распараджацца зямлёй самавольна, не можа ні прадаць яе, ні перадаць

---

10) Гл. Доўнар-Запольскі, заўвагі па беларускай этнаграфіі. Жывая старына.

(Дзёрнавічская воласць) і нават калі ён прадасць пры малалетніх дзецях, то суд прызнае такую прадажу несапраўднай і верне зямлю законнаму нашчадку (Пінск і Рэчыца). Дарэчы за дрэнныя паводзіны сына, супраціўленне бацькоўскай волі, бацькі могуць пазбавіць яго прынамсі часткі усёй маёмасьці, перадаць яе чужой асобе – такія выпадкі нам вядомы з рашэнняў некаторых судоў; хоць не вядома, ці бывалі выпадкі паўнага пазбаўлення спадчыннай маёмасьці. Юрыдычнае значэнне бацькі над сынамі спыняецца з моманту падзелу: калі ён прадаўжае займацца гаспадаркай, то астаўляе сабе роўную долю з сынамі. Па адной справе сын скардзіўся на свайго брата і бацьку: пры падзеле бацька не даў яму роўнай долі гумна і збажыны і перашкаджаў яму валодаць трэццяй часткай пакосу. Суд задаволіў просьбу сына, прызнаў права сына на 1/3 частку усёй маёмасьці (Пінск); тое ж падцвяржаецца іншымі выпадкамі. Калі бацька раздзяліў сыноў яшчэ пры сваім жыцці, то для яго застаецца толькі сфера маральнага ўздзеяння. Ён можа, жывучы з адным із сыноў, дапамагаць яму ў працы, парадамі і інш.

Зразумела, калі сям’я не распадаецца пасьля сьмерці бацькі, то яна прадаўжае існаванне ў выглядзе абшчыны. Гаспадаром, у такім выпадку, становіцца хто-небудзь са старэйшых членаў – брат памёршага, старэйшы сын, сем’янін ці прымак, калі ў пакойнага няма братоў і сыноў. У больш рэдкіх выпадках кіраўніцай гаспадаркі станавіцца маці сямейства, жонка памёршага; гэта не лічыцца правілам і больш менш высокае становішча гаспадыні залежыць ад яе асабістых якасьцей. У такіх выпадках старэйшы із мужчынскіх членаў усётакі распараджаецца мужчынскімі відамі працы, але агульныя грошы і агульнае кіраўніцтва справамі пераходзіць у рукі гаспадыні. Выпадкаў выбрання гаспадара мне не даводзілася бачыць і іх, здаецца, не бывае. Справа, мабыць, вырашаецца сама сабой, а не вырашыцца – у выніку падзел. Так, напрыклад, у рашэннях судоў сустракаюцца ўказанні, што старэйшым у сям’і быў прымак, пляменік памёршага здольніка і інш. Ва ўсякім выпадку, новы гаспадар, не з’яўляючысь бацькам сям’і, карыстаецца ўсімі правамі гаспадара і яго ўлада і значэнне тым большыя, чым большая яго ступень радства да ўсёй сям’і, напрыклад, калі ён старэйшы з братоў. Уплыў такіх прадстаўнікоў сям’і, як отчым, прымак, сем’янін, поўнасьцю залежыць ад іх умення кіраваць. Ва ўсякім выпадку, народны звычай прызнае за такім гаспадаром усе правы: суд карае пасынка за непавагу да отчыма, не дазваляе падзел, патрабуемы малодшымі членамі, пры нежаданні дзядзькі-гаспадара (напрыклад Пінск) ці старэйшага брата і г. д.

У сям’і вытрымліваецца самы строгі падзел працы на мужчынскую і жаночую. Мужчынскімі заняткамі лічацца: ворыва, пасеў, баранаванне, касьба, перавозка сена і снапоў з сенажаці і поля, малацьба, дагляд быдла зімой, перавозка і рубанне дроў, із загатавання адзежы - загатаўленне лапцяў. Жанчыны абавязаны гатаваць ежу для ўсёй сям’і, насіць ваду, засаджваць агарод, рабіць на ім градкі, палоць агарод, лён, бульбу, капаць бульбу і вырываць лён на полі, збіраць канаплю, жаць збажыну; ткаць сукно і палатно і шыць адзенне для ўсёй сям’і, даглядаць за малочнымі прадуктамі. У кіраванні жанчын знаходзіцца насільная адзежа і бялізна. Акрамя таго ў вялікіх сем’ях

існуе яшчэ больш падрабязны падзел абавязкаў, згодна з узростам і здольнасьцямі асоб. Але ў малых сем'ях абавязкі мужа, жонкі, дочак перамешваюцца і часьцяком сустракаецца дзяўцына, якая косіць, малоціць, заворвае і г. д. Ва ўсякім выпадку гэта вызываецца толькі вострай неабходнасьцю і без патрэбы ніхто не умешваецца ў абавязкі іншага. Выконваць жаночыя абявазкі для мужчыны лічыцца нават ганебным. Мужчына самастойна ні ў якім разе не будзе даставаць з печы ежу: для гэтага павінна прыйсьці гаспадыня ці нявестка, якой даручана прыгатаванне ежы (гэты занятак належыць старэйшай жанчыне ў сям'і і толькі пры старасьці самой гаспадыні перадаецца старэйшай нявестцы ці брацісе). Мужчына не можа дастаць бялізну із сундука, хлеб ці сала перад адпраўленнем у дарогу – усё гэта справы гаспадыні[11].

Як гаспадар з'яўляецца галоўным распарадчыкам мужчынскіх абавязкаў, так гаспадыня, маці родных дзяцей, "цётка" для старэйшых членаў абшчыны і "баба", "хаджайка" для роўных, з'яўляецца распарадчыцай усёй жаночай палавіны абшчыны. Звычайна яна бывае самая старэйшая ў доме жанчына, часьцей за ўсё жонка гаспадара. Яна, як ужо было сказана, часам з'яўляецца прадстаўніком абшчыны. Народны суд у такіх выпадках падтрымлівае яе. Так аднойчы маці заявіла суду, што старэйшы яе сын і яго жонка жадаюць падзелу, а яна з малодшым сынам і яго жонкай не; такім чынам старэйшы сын з жонкай з'яўляюцца прычынай сваркі ў сям'і. Тады суд не толькі прызначыў ім жыць нераздзельна, але і прысудзіў старэйшаму сыну пакаранне 16 удараў дубцом, а яго жонцы чатырохдзённы арышт.

Становішча жанчыны ў беларускай сям'і далёка не можа быць названа прыгнеценым. Яна з'яўляецца поўнай гаспадыняй у сваёй сферы, памочніцай і дарадчыцай мужа. У адносінах да дзяцей народны звычай патрабуе таксама поўнай павагі з боку апошніх да маці. Дзеці наогул знаходзяцца пад яе наглядам, толькі хлопцы гадоў з 14, калі яны ўжо падрастаюць настолькі, што становяцца прыдатнымі да больш лёгкіх даручэнняў пры апрацоўцы зямлі, нарыклад, барануюць, возяць снапы, сена і т. д., пераходзяць у непасрэднае падпарадкаване гаспадара. Да таго часу яны, а дзяўчаты да выхаду замуж, знаходзяцца выключна ў падпарадкаванні маці; у такое ж становішча трапляюць і нявесткі, хоць становішча апошніх некалькі цяжэйшае. Маці таксама павінна падрыхтаваць для дачкі пpыданнае. Юрыдычнае становішча жанчыны зводзіцца да таго, што яна можа пры адсутнасьці прамых нашчадкаў, атрымаць у спадчыну бацькоўскую маёмасць і зямлю, калі застанецца на бацькоўскай гаспадарцы, аб чым мы будзем гаварыць ніжэй. Яна ж прызнаецца апякуншай сваіх дзяцей да іх

---

11) Каб уявіць сабе гэту строгасць пры размяркаванні заняткаў, я прывяду адзін выпадак. Давялося мне быць у гасьцях у аднаго дзеда, старшыні воласьці. Ад яго мы разам вярнуліся ў валасное праўленне і на наступны дзень дамовіліся паехаць у суседнюю вёску. Раптам дзед заявіў, што яму яшчэ патрэбна збегаць дадому (вёрст 10). "Навошта" – "А якжаж, растлумачыў ён, заўтра нядзеля, а я паеду па сваёй воласьці і бруднай сарочцы і штанах?" "Якеж я буду начальства? –дабавіў ён смяючысь. –"Дык чаму ж вы надзелі дома; мы ж толькі што былі ў вас." – "Э, да ня было хаджайкі (старэйшая нявестка). Яна мые і шые, яна дае, а я хіба што знаю?" – патлучачыў ён. Я скарыстаўся выпадкам, каб распытаць яго, чаму існуе тое ці іншае раздзяленне абавязкаў у сям'і. Сутнасць яго тлумачэнняў зводзілася да наступнага " хто што зрабіў ля зазяйства, няхай той і выдае усім."

паўналецця, лічыцца ў гэты час поўнай гаспадыняй у распараджэнні зямлёй і іншай маёмасьцю. Загады зробленыя маці пад час малалетства дзяцей прызнаюцца законнымі і не падлягаюць адмене. Так па адной справе ўдава ўвайшла у гзоду з дзеверамі адносна падзелу зямлі; праз пяць гадоў сыны заявілі нязгоду з падзелам, але суд адмовіў ім. (Пінск)

Як удзельнік агульнай справы жанчына атрымлівае права на маёмасць, нажытую агульнымі з мужам высілкамі. Але яна асабіста не мае ніякага права на маёмасць, узятую, мужам з яго сям'і, састаўляючую яго сямейную маёмасць. Так адно рашэнне валаснога суда дало такі вынік. Сямён Мялік скардзіўся на другога мужа сваёй браціхі, жонкі памёршага яго брата Антона, у тым, што тая завалодала пабудовамі, сталярнымі інструментамі, кароваю і інш. маёмасьцю яго пакойнага брата. На судзе абвінавачванне падцвердзілася, але выявілася, і тое, што маёмасць набыта мужам і жонкай сумесна, акрамя каровы і сталярных інструментаў. І суд пастанавіў удаве валодаць, хоць у яе і не было дзяцей, набытай маёмасьцю, а карову і інструмент, “як узятыя пакойным зараз Антонам Мялікам ад сваіх бацькоў, за адсутнасьцю дзяцей пакойнага, вярнуць у дом бацькоў пакойнага”. (Пінск).

Іншая справа паказвае, што жонка пасля мужа атрымала ў спадчыну частку маёмасьці, набытай сумесна на зямлі, г. з. збажыну і інш. (ib).

Далей мы яшчэ адзін раз сутыкнемся са спадчыннымі правамі жанчыны; але для цяперашняй нашай мэты прыведзеных прыкладаў дастаткова, каб пабачыць раўнапраўнае становішча чалавека і жонкі ў маёмасных адносінах, а таксама і параўнальна высокае яе духоўнае ставішча адносна чалавека і дзяцей.

Каб скончыць з характарыстыкай становішча старэйшых членаў сям'і, дарэчы будзе тут сказаць некалькі слоў аб сталых і ўдовых яе членах. Калі сям'я не падзялілася, то сталыя яе члены жывуць у ёй. Калі бацька старэе і ўзначальваць гаспадарку не хоча, то ён перадае яе старэйшаму сыну. З гэтага моманту бацька не можа распараджацца маёмасьцю і зямлёй. Усё яго значэнне ў доме зводзіцца да духоўнага ўплыву. Калі сыны пачынаюць падзел, то ён не можа перашкодзіць яму, раз усе згодны; ён толькі можа патрабаваць сабе некаторую частку на пракармленне. Бацькі, звычайна, наперад, перадаючы гаспадарку сынам, патрабуюць сабе некаторую частку маёмасьці, якую яны перадаюць таму з сыноў, у каго будуць жыць. Калі ж яны чамусьці не зробяць гэтага, то суд сам у выпадку спрэчак робіць такі выдзел. Так, па адной справе, суд утрымаў із агульнай маёмасьці на карысьць старога бацькі клець, якую стары павінен быў аддаць сваёй адружанай дачцэ, каб яна апранала яго да смерці, нявестка (сын памёр) атрымала шубу з той умовай, што яна павінна карміць старога. (Пінск). Але гэта сям'я была беззямельная. У іншых выпадках бацьку выдзяляецца яшчэ кавалак зямлі. Так па аднаму рашэнні із Рэчыцкага уезду, бачым, што бацька састарыўшысь, аставіў сабе кавалак зямлі і пасяліўся ў малодшага сына. Пасля смерці бацькі суд прысудзіў малодшаму сыну 2/3 бацькоўскай зямлі, а 1/3 старэйшаму, матывуючы такое рашэнне тым, што бацька хварэў (значыць не мог дапамагаць у гаспадарцы) і яго ўтрымліваў малодшы сын без дапамогі старэйшага.

Той жа самы праглядваецца і ў іншых рашэннях. Так па аднаму рашэнню з Пінскага ўузда бацьку была астаўлена на пракармленне 1/7 частка зямлі, якую і атрымаў, карміўшы яго сын (Пінск). За сталай маці, здаецца ў такіх выпадках, не прызнаецца права астаўляць за сабой частку зямлі (калі нават адбыўся падзел па рашэнню яе пакойнага чалавека), але суд абавязвае сыноў карміць і апранаць яе да сьмерці. Маючаяся у нас рашэнне суду па гэтаму выпадку гаворыць непэўна: яно не дазволіла сынам раздзяліцца поўнасьцю, але абавязала утрымліваць маці пры сабе (Пінск). Маці часьцей за усё выдзяляецца частка із пабудоў, быдла, збажыны, перадаваемых ёю таму сыну, у якога яна застаецца жыць. Сын у якога застаюцца жыць старыя эаўсёды бывае малодшы, яму ж застаецца бацькоўская сядзіба. Разлік, прымушаючы сялян прытрымлівацца гэтага звычаю, заключаецца ў тым, што малодшы сын заўсёды маладзейшы, сям'я ў яго меншая і якімі б не былі старымі бацькі, іх праца ўсётакі можа спатрэбіцца ў малой сям'і.

Што да ўдовых членаў сям'і, то пытанне аб удаўцы не мае асаблівай цікавасьці. Калі удавец мае малых дзяцей, ён, незалежна ад узросту, жэніцца праз некалькі месяцаў пасля сьмерці жонкі. Праўда, удавец вельмі рэдка жэніцца на дзяўчыне; хіба што яна вельмі бедная, знясланўленая або з якім-небудзь фізічным недахопам. Удавец і удава – звычайная пар. Калі удавец мае дарослых дзяцей, то яго юрыдычнае становішча ў сям'і не змяняецца пасля смерці жонкі.

Становішча ўдавы – зусім іншая справа. У ім трэба разлічаць некалькі бакоў: трэба разлічаць становішча старой жанчыны, застаўшайся ўдавой пасля раздзелу дзяцей, ці калі падзел адбудзецца ўжо пры ёй і становішча ўдавы, застаўшайся старэйшай у сям'і, да яе падзелу, ці апякуншай падрастаючых дзяцей. Пра такія выпадкі мы ўжо гаварылі, а пра апеку гаворка будзе наперадзе. Калі ж жанчына застаецца ўдавой пры малалетніх дзецях пасля раздзелу яе чалавека, то яна пачынае кіраваць гаспадаркай і можа прыняць да сябе прымака ці здольніка. Яна з'яўляецца гаспадыняй у хаце, распараджаецца сямейнай маёмасьцю і нават бацька пакойнага чалавека не можа забраць гэту маёмасць[12].

12) Спашлёмся на наступныя прыклады рашэннящ Целеханскай воласьці Пінскага уезду: "Борисъ Курятникъ жаловался словесно волостному суду на жену сына своего, нынѣ умершага Купріана, Людмилу о неотдачѣ ему, Борису, амбара и одрина и избы, которыя строенія имъ были построены при жизни сына. Вслѣдствіе жалобы Бориса Курятника была спрошена крестьянка Людмила Ятковска, которая показала: что она не въ состояніи  дать ему требуемаго строенія, такъ какъ имѣетъ четверыхъ дѣтей, безъ земли, а содержать его при себѣ она не отказывается. По выслушаніи жалобы Бориса Курятника, и показанія Людмилы Ятковской, волостно судъ, состоящій изъ трехъ судей, предложилъ обѣимь сторонамъ примириться, но обѣ стороны не примирились. Рѣшилъ: Людмила Ятковска обязана отдать Борису Курятнику амбаръ съ темъ, чтобы онъ, Курятникъ, таковой передал дочери своей Евдокіи, которая обязана будетъ одѣвать его до смерти; жить же Курятникъ должен у Людмилы Ятковской, которая обязана его кормить и уплачивать всѣ повинности за него до смерти и послѣ оной, если будетъ требоваться».

У дадзеным выпадку справа ўскладняецца тым, што трэба даглядаць старога бацьку. Справа у тым, што бацька выдзяліў сына і дачку і, значыць, разпараджацца маёмасьцю ужо не можа. Пасля сьмерці сына ён хоча забраць маёмасць ад сям'і пакойнага, што суд не дазваляе. У адносінах да састарэлага бацькі на ўдаве яго сына ляжыць абавязак падтрымліваць старога, які суд, у дадзеным выпадку, падзяляе паміж нявесткай і дочкай, аставіўшы, аднак, асноўную долю маёмасьці ў сям'і

Іншая справа, калі ўдава выходзіць замуж на другім тыдні; у такім выпадку зямля застаецца за нашчадкамі, а правы ўдавы на распараджэнне сямейнай маёмасьцю спыняецца.

Ва ўсіх гэтых выпадах удава была гаспадыняй у гаспадарцы чалавека. Але калі жанчына застаецца ўдавой да раздзелу, яе становішча зусім іншае. Сувязь, якая мацавала яе да сям'і яе чалавека, парвалась. Ёй застаецца дылема: ці застацца ў сям'і чалавека ў якасьці найміткі, ці ж вярнуцца ў сваю сям'ю. Назіранні над практыкай народнага жыцця паказваюць, што апошні варыянт з'яўляецца звычайным. У маёмасных адносінах удава не мае праў на абшчынную маёмасць свайго чалавека; але сваё прыданнае і усё, што было набыта асабіста ёю ў сям'і чалавека, удава забірае назад; яна таксама мае права на рухомую маёмасць, набытую ёю сумеснай з чалавекам працай, аб чым мы ужо гаварылі; у дадатак, часам удаве даецца права патрабаваць ад сям'і пакойнага чалавека кампенсацыю за затрачаную працу.

Але няма ніякіх указанняў на тое, што удава зыходзячая з сям'і чалавека, магла разлічваць на атрыманне часткі із сямейнай маёмасьці ў выглядзе часовай або пастаяннай дапамогі на пракармленне асабіста сябе. Усё пытанне ў дзецях: удава можа забраць іх з сабой, можа аставіць іх у сям'і чалавека. Сям'я пакойнага павінна даць на пракармленне дзяцей, "на воспитаніе", як значыцца ў судзбных рашэннях. Гэта дапамога бывае адначасовай ці, радзей, пастаяннай. Так із аднаго рашэння бачна, што ўдаве суд на выхаванне дзіцяці прысудзіў карову, коштам у 5 рублёў і палову капны жыта у 2,5 рублёў; у іншым – па асьміне аўса і грэчкі, па чашцы жыта, ячменю, пшаніцы, дзве бочкі бульбы і цялушку.

Пяройдзем да становішча дзяцей у сям'і.

Дзеці з ранніх гадоў выконваюць тыя або іншыя гаспадарчыя абавязкі і чым меншая сям'я, тым раней сялянскі падлетак знаёміцца з цяжкай працай. З пяці гадоў дзіцёнак няньчыць сваіх меншых сясцёр і братоў, з 7-8 гадоў ён ужо пастух, ходзіць за возам і інш.; з 12 гадоў хлопчык пачынае першыя практыкаванні ў земляробстве: ён зграбае сена, барануе, з пятнаццаці гадоў бярэцца за цэп, касу, а яшчэ гады праз два бярэцца і за саху, так што да 20 гадам ён ужо хлебароб, прайшоўшы ўсе акадэмічныя курсы сялянскай гаспадаркі. Дзяўчына да 16-17 гадам ведае жаночую працу. Зразумела, інтэнсіўнасць працы падлетка поўнасьцю залежыць ад складу і эканамічнага добрабыту сям'і.

Юрыдычныя правы дзеці атрымліваюць, згодна з народным поглядам, толькі пасьля адружання. Да гэтага часу яны не умешваюцца ў агульнае сямейнае жыццё, з іх і патрабуюць менш[13]. Але, тым не менш, за імі прызнаецца права ўласнай маёмасьці, калі яны пасьпяваюць набыць яе ўласнай працай; асабліва шмат магчымасьцей для такіх набыццяў ёсць у дзяўчат: яны павінны капіць прыданае; амаль заўсёды ў гэтым ёй дапамагае сама маці. Такой

---

пакойнага сына, таксама як і асноўныя абавязкі ў адносінах да бацькі. Карацей суд глядзіць на удаву так жа як глядзіць на адносіны сына-гаспадара да бацькі.

13) Яны "адгульваюць сваё", як кажуць беларусы.

крыніцай з’яўляюцца вырабы жаночай працы. Жанчыны накіроўваюць у сваю асабістую карысць усе лішкі ад продажу сваіх вырабаў. Яны апрацоўваюць і прадаюць лён, канаплю, вырабляюць з іх палатно і ніткі, аддаючы ў сям’ю толькі тое, што трэба для вопраткі, а із канаплі столькі, колькі мужчынам патрэбна для вяровак, шнуркоў. Асабліва распаўсюджана выдзелка канаплі. Ім жа адыходзіць частка гародніны, якую яны прадаюць, а таксама малочныя прадукты і шэрсць, атрымліваемая з быдла, прыведзенага маці ў пpыданнае ад сваіх бацькоў. Нарэшце збіранне грыбоў, ягад і арэхаў таксама прыносіць жаночай палавіне не малы прыбытак. Усім гэтымі шляхамі назапашваецца маёмасць, знаходячаяся ў выключным валоданні жанчын сям’і, з якой выдзяляецца прыданае дочкам. У прыгарадных вёсках малазямельныя бацькі аддаюць сваіх сыноў і дочак у найм, пры гэтым, гледзячы на абставіны, грошы то ідуць у агульны скарб, то застаюцца ў прыватным уладанні дзяцей, то сям’я бярэ толькі з іх. Гэта залежыць ад таго, з якой мэтай гаспадар адпускае члена сям’і на заробкі, на якіх умовах. Тым не менш, дзеці да адружання, фактычна не валодаюць сваімі здабыткамі; яны аддаюць іх маці і атрымліваюць назад толькі пасля вяселля; грошы, патрэбныя на упрыгожванні, выдае маці. Так як за дзецьмі не прызнаецца юрыдычных правоў, то яны асабіста не могуць браць якія б то ні было абавязкі. Дочка ці сын аддаюцца ў найм бацькам ці маці і за іх сумленную службу адказваюць бацькі і яныж атрымліваюць грошы за найм, незалежна ад таго, у чыю карысць яны пойдуць. Так селянін Целеханскай воласьці вёска Багданаўка скардзіўся валасному суду на іншага селяніна, “які аддаў свайго сына Даніїла у наём яму, Багдановічу, з умовай заробку ў год 11 рублёў і шанок бульбы”. Але сын праз тры тыдні пакінуў службу, а бацька аддаў яго іншаму гаспадару. Бацька і сын апраўдваліся тым, што сын “паехаў па сваёй ахвоце”. Але суд “за дазваленне сыну самавольна аставіць службу”, прысудзіў бацьку заплаціць пазыўніку страты 3 рублі і штраф на карысць воласьці 1 рубель. Па другому рашэнню відаць, што бацька аддаў у найм сына за 24 рублі ў год у узяў наперад плату хлебам і быдлам; сын пакінуў службу і суд прысудзіў спагнаць грошы з бацькі. Тымі ж самымі правамі паўсюдна карыстаецца ў адносінах да дзяцей і маці, ад якой таксама залежыць аддача дзяцей у найм[14]. Так жа бацькі аддаюць дзяцей у навучанне[15] рамесніку.

---

14) Для прыкладу прывядзём узор такой дамовы з Гарбацэвічскай воласьці Бабруйскага уезду. “1877 года Января 18 дня, Мы, нижеподписавшіеся, съ одной стороны Иванъ Вериго и помѣщикъ Доменикъ Вириша заключили условіе, въ слѣдущемъ: 1. Я Иванъ Вериго, имѣя сына по имени Антона, отдалъ въ услуженіе помещику Вирише на два года, срок службы долженъ считаться съ 1 Апреля 1877 года, при чемъ ставлю въ обязанность моему сыну Антону, что онъ долженъ повиноваться во всемъ Виришѣ и его женѣ; въ случаѣ неповиновенія я принимаю обязанность на себя, какъ отецъ, заставить сына своего быть вѣжливымъ человѣкомъ, по службе исполнять всё, что будутъ отъ него они требовать гг. Вириши; во время службы сына черезъ два года бѣлье, какъ то: рубахи и штаны должны быть помѣщика, харчъ для сына долженъ быть помѣщика хорошего качества. За службу сына Вириша долженъ мнѣ ежегодно уплатить по тридцать рублей и деньги всѣ сполна за два года должен уплатить впередъ. Прогульныхъ дней быть не должно, въ случаѣ таковые по какимъ либо причинамъ окажутся, то сын мой тѣ дни должен отслужить послѣ окончанія срока службы. – На случай если мой сынъ слѣлает какое либо преступленіе или воровство, то я какъ отцъ, отвѣтственность принимаю на себя, а если сын броситъ службу у помѣщика Вириши, въ такомъ случаѣ я подвергаю себя штрафу 25 рублей. – Я Вириша

Заканчываючы характарыстыку становішча кроўных членаў сям'і, нам трэба было б сказаць пра асабістыя адносіны чалавека да жонкі, бацькоў да дзяцей. Але гэты бок сямейных адносін, не вельмі фармуліраваны ў звычайным праве. Гэта такі асяродак народных звычаяў, аб якім у цяперашні час можна сказаць вельмі няпэўна. Сямейныя пачуцці наогул мала лічацца з законам, тым больш у цяперашні час, калі сялянская сям'я рэарганізуецца, калі векавыя звычаі усё больш і больш адступаюць перад новым уплывам, у якім асабістыя адносіны маюць вялікае значэнне. Мы можам толькі падзяліцца сваімі асабістымі ўражаннямі[16].

У беларускай сям'і жорсткія адносіны чалавека да жонкі – з'ява вельмі рэдкая, нават больш таго – выключная. Толькі п'янства чалавека парушае мірны ход сямейнага жыцця, але ў такой сям'і жыцце наогул бывае ненармальным. Зрэшце звычай дазваляе жонцы пакінуць чалавека (што раўназначна разводу), калі чалавек жорстка абыходзіцца з ёй. Але калі жонка пакідае мужа без прычыны і справа даходзіць да валаснога суду, апошні на баку мужа. Так у адным выпадку муж скардзіўся на цешчу і брата сваёй жонкі, што у выніку іх нагавораў жонка пакінула яго. У сваё апраўданне жонка прыводзіць тое, што чалавек яе – асоба хваравітая, а сям'я чалавека не вельмі прымае яе. Цікава рашэнне суду: жонка за астаўленне чалавека і непавагу да яго была прысуджана да выканання грамадзкіх прац працягам тыдня; брату жонкі прысудзілі пятнадцать удараў дубцом, цешча – пакарана штрафам у адзін рубель; усіх разам суд абавязаў: "жыць у доме добра і каб спрэчак не было".

Звычай абавязвае жонку падпарадкоўвацца чалавеку, але гэта падпарадкаванне не сляпое, гэта падпарадкаванне малодшага члена сям'і да

---

принимаю къ себѣ въ услуженіе сына Ивана Вериго, Антона, и на все сказанное въ 1 пунктѣ условія согласенъ». - Подпісы

15) Прывядзём для прыкладу адну іх такіх умоў з той жа воласьці (справа 1876 г.): "Мы нижеподписавшіесякрест. Дер. Богушовки Федора Перегудова и житель дер. Богушовки еврей Берка Іосеовъ заключили условіе въ слѣдующемъ: 1. Я, Перегудова, будучи вдовою и имѣю дѣтей, коихъ съ трудомъ могу пропитать, и не имѣя малѣйшага хозяйства и собственной земли, за лучшее обдумалась: Старшаго сына отдать въ обученіе какого нибудь ремесла, а какъ въ лер. Богушовкѣ постоянно проживаетъ кузнецъ Еселевъ, то для обученія кузнечного мастерства старшаго сына моего Гавріила отдаю въ терминацію на 5 лѣтъ, т. Е. по 15 іюля 1881 года, сказанному Еселеву съ обязательствомъ за науку сейчасъ уплатить ему 20 р. и кромѣ сего 6 месяцевъ своего сына кормить и одинъ годъ одѣвать, а послѣдніе 4 года Еселевъ обязанъ его принять на свій столъ и давать верхнюю одежду и обувь, споднюю же одежду я обязуюсь черезъ все пять лѣтъ давать своему сыну свою; на случай же придется выѣхать кузнецу изъ дер. Богушовки прежде окончанія срока терминаціи моему сыну, то срывать его не вправѣ, и онъ обязанъ там быть, гдѣ и его хозяинъ, съ тѣмъ только, что тогда Еселевъ обязанъ его одѣвать какъ верхнею, такъ и споднею одеждою. Когда мой сынъ будетъ до исполненія срока внесенъ въ ревизскія сказки, то всѣ повинности подушные и мірскіе сборы уплачивает кузнецъ: исходатайствовані билета, если случится, на отлучку лежить на обязанности Еселева; при чемъ вмѣняется въ обязанность моему сыну Гавріилу хозяина своего слушать и ему повиноваться до окончания 5 лѣтняго срока. 2. Я, Еселевъ принимаю къ себѣ сына вдовы Перегудовой, Гавріила, обязуюсь его смотрѣть и учить кузнечной работѣ, на сколько самъ понимаю, обходиться съ нимъ обязуюсь честно и благопристойно, на предложенный пунктъ 1 условия во всемъ согласенъ». Подпісы.

16) У маіх артыкулах, размешчаных у "Вил. Вѣстн. За 1890-1 гг. (№№202-262; 9-28), не выдадзеных на жаль асобнай кнігай, мне давялось падрабязна паведаць мае назіранні над асабістымі адносінамі ў сям'і.

старэйшага. Адасобленасць асабістай маёмасьці, раздзяленне абавязкаў, узаконены звычаем удзел у агульных справах, - усё гэта прыдае жанчыне вядомую самастойнасць і пазбягае частых зачэпак да сямейных спрэчак. Наогул, добрыя адносіны жонкі і чалавека – з’ява досыць звычайная[17].

Такіяж мяккія адносіны беларуса да сваіх дзяцей. Маці і бацька любяць сваіх дзяцей і ў вялікай сям’і праца дзяцей па магчымасьці аблягчаецца. Калі вы спытаеце селяніна, як дзеці павінны адносіцца да бацькоў і да старэйшых наогул, ён вам растлумачыць, што дзеці павінны слухацца бацькоў, дзяцей не трэба “распускаць” і інш., але усе гэтыя правілы паўсядзённай маралі не праяўляюцца ў адносінах да дзяцей у суровай форме. Спрэчкі бацькоў з малалетнімі дзяцьмі не даходзяць да суда. Іншая справа спрэчкі дарослых сыноў, аддзяліўшыхся ад бацькі, ці жадаючых адзяліцца. Такія справы ў некаторых мясцовасьцях (напрыклад у Пінскім у., у падгародных валасьцях Бабруйскіх у.) дастаткова частыя; у судзебных рашэннях з гэтай нагоды і адлюстроўваецца народны погляд на адносіны бацькоў і дзяцей. Часткова мы ўжо з гэтым поглядам знаёмы, таму што нам ужо даводзілася гаварыць пра адносіны малодшых членаў сям’і да гаспадара. Бацька у адносінах да дарослых дзяцей, займае становішча гаспадара.

Погляд суду на адносіны дарослых дзяцей да бацькоў вельмі цікавы. Суд глядзіць так, што дзеці павінны падпарадкоўвацца бацькам, але калі яны не падпарадкоўваюцца, то бацькі самі вінаваты ў гэтым. У адным выпадку, напрыклад, маці скардзіцца суду на сваіх двух сыноў за непаслушэнства. Сведкі паказалі, што браты жывуць “не спакойна паміж сабой”, а маці “дае ім сама патачку”. Суд прымірыў спрачаючыхся так: старэйшаму прысудзіў 15 удараў, малодшаму 10, пры гэтым старэйшаму наказана слухаць маці, малодшаму – слухаць маці і старэйшага брата; самой маці суд прысудзіў адправіцца ў прыхадскую царкву на багамолле на пакаянне за тое, што яна не умее мірыць сыноў. Наогул суд вельмі строга карае непаслушэнства дзяцей да бацькоў, сямейныя спрэчкі і інш., калі яны вядуць да патрабавання дзяцьмі падзелу, наогул да разбурэння сям’і. У выпадках рэзкай непашаны дзяцей да бацькоў, ці малодшых да старэйшых, суд назначае вінаватым мужчынам цялесныя пакаранні, а жанчынам штрафы, грамадзкія адработкі, ці заключэнне ў арэстантскай пры валасным праўленні; у іншых выпадках суд толькі наказвае “малодшым слухаць старэйшых”. Але не дае літасьці ні бацькам, ні старэшым,

17) Там, дзе асабістыя ўражанні разыходзяцца з аб’ектыўнымі дадзенымі, вельмі важнае значэнне мае назіранне шматлікіх асоб, з розных бакоў сутыкаючыхся з народным жыццём. Вось што кажа аб адносінах чалавека да жонкі нар. наст. П.П. Дзямідаў, адказваючы мне на адпаведнае запытанне: “Чалавек лічыцца кіраўніком сям’і, а жонка павінна знаходзіцца ў яго поўным падпарадкаванні. Але падпарадкаванне жонкі не у кожнай сям’і аднолькавае. Хоць і ня часта, але бывае, што гэта падпарадкаванне замяняецца адваротнай з’явай, падпарадкаваннем чалавека жонцы, а яшчэ часьцей роўнасьцю чалавека і жонкі. Як бы там ні было жонка заўсёды лічыць сябе могучай заявіць пратэст, калі яе чалавек нешта зробіць не па яё разуменню”. Адносна пабояў ён гаворыць, што яны бываюць вельмі рэдка і наогул можна сказаць, што бойкі ў сялянскіх сем’ях не з’яўляюцца звычайнымі.

Селянін Ярмаковіч нам пісаў у гэтым дачыненні: “у нас жонка з чалавекам жывуць мірна; бываюць спрэчкі толькі тады, калі чалавек п’яніца” і г. д.

калі яны самі з’яўляюцца прычынай сваркі. Мы не ведаем выпадкаў, калі б суд так ці інакш караў бацьку , ці наогул гаспадара, але сярод судзебных рашэнняў ёсць выпадкі пакарання працай маці за сваркі ў сям’і (Бабруйскі у.).

Суд не аднойчы гаворыць, што дзеці, наогул малодшыя члены сям’і павінны выконваць “законныя гаспадарчыя загады” гаспадара, такім чынам незаконныя, значыць не заснаваныя на звычайным праве, адносіны бацькоў да дзяцей, суд асуджае і сам пастанаўляе падзел у такіх сем’ях. У адным, напрыклад, выпадку бацька не справядліва адносіўся да сына і, у той жа час, не жадаў выдзяліць яму частку маёмасьці. Суд заставіў бацьку выдзяліць частку маёмасьці сыну з наступнай матывіроўкай: “хоць кіраванне дзецьмі па праву і належыць бацькам, але апытаннем сведак даказана жорсткае абыходшанне Аўраама Ф. са сваім старэйшым сынам і яго сям’ёй” (Бабруйскі у.).

Такім чынам, суд не падтрымлівае непаважныя адносіны дзяцей да бацькоў, сваркі ў сям’і і інш., але у той жа час і незвычайныя адносіны бацькі да дзяцей асуджаюцца грамадскай думкай. І гэта апошняя акалічнасць яшчэ раз паказвае на тое, што згодна з народным меркаваннем абаюдныя адносіны бацькоў і дзяцей не павінны быць рэзкімі, непаважлівымі.

Мы разглядзелі становішча прадстаўнікоў сям’і: гаспадара і гаспадыні і бацькоў у адносінах да дзяцей. Цяпер нам патрэбна перайсьці да разгляду становішча такіх членаў, якія прымаюцца ў сям’ю і не звязаны з ёй кроўным радством, менавіта становішча нявесткі ў доме свекра, прымака ў доме цесьця і прыёмных сыноў і сем’янінаў. Тады калі становішча нявесткі вызначаецца значэннем у народным светапоглядзе шлюбнага пагаднення, то становішча прымака, прыёмыша і сем’яніна вызначаецца тым, у якія адносіны яны пастаўлены да зямлі цесьця, ці прыёмнага бацькі. Пагэтаму мы пяройдзем да разгляду гэтых бакоў звычайнага права.

## II.

Як і ўсюды ў Расіі, беларуская моладзь абодвух палоў мае не мала выпадкаў, каб пазнаёміцца і сысціся задоўга да таго часу, калі прыйдзе час адружання. Сродкамі такіх зносін служаць сходы моладзі, якія бываюць у розную пару года і ў сувязі з рознымі выпадкамі. Гэта: кірмашы, хвесты (храмавыя сьвяты), прашчы – месцы прысвечаныя якому-нібудзь святому ці святу, пад заступніцтвам якога лічыцца свяшчэнны калодзезь, крыніца, хрэст, капніца, звычайна знаходзячыяся дзе-нібудзь адасоблена – у лесе, на балоце; туды і збіраюцца ў пэўныя дні жыхары вакольных вёсак. На такія сходы збіраецца ўсё вакольнае сялянства; старэйшыя – каб пабачыцца са сваякамі з бліжэйшых вёсак, купіць што-небудзь у прыехаўшых гандляроў, памаліцца, а моладзь ахвотна збіраеца каб пасьпяваць, патанцаваць; пераборлівы хлопец, каб наглядзець сабе нявесту папрыгажэй і пазаможней, а дзяўчына, асабліва дачка заможных бацькоў, каб паказаць сябе “багатырам” (багачам) суседніх вёсак (для бедных, кажуць беларусы, і ў сваім куце хопіць жаніхоў). Усё гэта збіраецца ў

markdown
рознакаляровым, квяцістым адзенні. На дзяўчынах яскрава гарацьчырвоныя "андракі", косы ім упрыгожаны яскравымі "кітайкамі", пасярэбраныя, а не, то медныя пярцёнкі і завушніцы, каралі, яскравыя хусткі, зверху накінутая белая сьвітка – увесь святочны ўбор беларускай прыгажуні. Хлопцы не адстаюць ад дзяўчат: у доўгіх "чабоцях", у камізэльцы чорнага ці сіняга колеру з яскравымі шклянымі ці металічнымі гузікамі, у паясах ахопліваючых разоў шэсць-сем стан, у світках і высокіх белых валяных шапках, цяпер звычайна замяняючыхся фуражкамі з казырком, - прысутнічаюць тут жа.

У сваёй вёсцы хлопцы і дзяўчаты таксама маюць не мала выпадкаў для збліжэння. Летам яны збіраюцца па святах для гульні; ладзяць так званыя гульбішчы – нешта падобнае на вясковыя балы і інш. Але больш інтымным характарам адрозніваюцца малалюдныя зімовыя сходы моладзі – "вячоркі". Дзяўчыны вядомага "кутку" вёскі збіраюцца па вечарах у каго-небудзь з суседзяў, прадуць і сьпяваюць песьні, старая расказвае ім казкі. Сюды ж збіраюцца і хлопцы[18].

Вядома этнаграфичнае значэнне гэтых вячорак[19]. На колькі ўплывае збліжэнне маладых людзей ободвух стацей  на заключэнне шлюбу паміж імі – у гэтым выпадку погляды старэйшага і малодшага пакалення процілеглыя. Тады як маладое пакаленне імкнецца дабіцца ўсё большай і большай свабоды пры выбары сабе пары, то старэйшае і нават сярэдняе пакаленне гэтага не ведалі[20]. І зараз яшчэ старэйшае пакаленне вельмі супрацiўляецца абсалютнай свабодзе выбару. Асабліва гэта адносіцца да вялікіх сямей і абшчын. Ні пара адружання, ні асабістыя сімпатыі тут не могуць мець значэння, калі сям'ёй не прызнае партыю падыходзячай, ці не своечасовай. Саступка, якая робіцца сям'ёй, заключаецца у тым, што яна імкнецца ўзгадніць свае інтарэсы з інтарэсамі моладзі. Бацькі даведваюцца, з кім "мілуецца" іх сын ці дачка і, калі гэта не супярэчыць вельмі інтарэсам сям'і, стараюцца пазбегнуць спрэчак і зрабіць па жаданню маладых. Зразумела ў малых сем'ях дзецям даецца большая свабода выбору: асабістыя пачуцці бацькоў, уплыў, які мае сын ці дачка, як адзіны працаўнік, вялікая відавочнасць іх карысьці ў гаспадарцы, - усё гэта схіляе бацькоў да саступак асабістым сімпатыям дзяцей.

Ва ўсякім разе, гаспадарчыя меркаванні маюць вельмі значную ролю пры заключэнні шлюбу, а бацькі імкнуцца паставіць іх наперад. З вяселлем старэйшага сына заўсёды спяшаюцца, так сям'і патрэбна работніца. Наадварот старэйшую дачку імкнуцца патрымаць лішні год-другі ў гаспадарцы, каб скарыстацца яе дапамогай. Акрамя таго і ў тым і ў іншым выпадку патрэбны выдаткі, якія калі-нікалі цяжка адбіваюцца на бюджэце гаспадаркі, а дачцэ, акрамя таго, патрэбна скапіць яшчэ і "выправу" із адзення, бялізны і інш.

18) Падрабязнасьці аб сходах беларускай моладзі гл. У нашым артыкуле "Живая Старина», 1893. II

19) Пар. напр., Кавалеўскі, Першабытнае права, в. II, 5-6.

20) "Як мы былі маладыя, - частка можна пачуць апавяданне – дык не было такога, каб ісьці за таго хлопца, з якім на вячорках мілавалася; але так як скажуць бацькі за каго ісьці за таго і ідзеш. Паплачаш трохі, а потым усе гэтыя маладошчы і забудуцца".

І гэтыя разважанні настолькі важныя, што часта адцягваюць вяселле на два-тры і больш гадоў. У адным акце мы бачым разважанне яшчэ і іншага характару, пры гэтым мы сустракаем указанні на існаванне звычаю дамаўляцца аб адружанні дзяцей да ім поўналецця. Адзін селянін, напрыклад, перадае іншаму свой полавінны надзел зямлі па пісьмовай дамове з той, аднак, умовай, каб атрымліваючы надзел жаніў свайго сына на яго дачцэ. Калі праз 11 гадоў узяўшы надзел не выканаў умову пра жаніцьбу сына, то бацька дачкі забраў надзел і суд аставіў зямлю за ім (Рэчыцкі у.). Такім чынам суд не прызнаў незаконнасць такой дамовы, а палічыў разладжанай яе таму, што не была выканана другая частка дамовы. Магчыма бацька дачкі, не маючы магчымасьці самаму апрацоўваць зямлю і плаціць за яе падаткі, не хацеў перадаваць яе ў чужыя рукі  ці ў рукі грамадства, але перадаў у выкарыстанне і абагачэнне сям’і свайго будучага зяця. Гэтая справа яшчэ раз падцвярждае сказанае намі аб значэнні бацькоў у адружанні сваіх дзяцей.

Інстытут выправы ў выглядзе грошай мала вядомы беларусам. Я маю сведчанні аб тым, што ён пачынае распаўсюджвацца ў некаторых мясцовасьцях Мінскага у. і даходзіць калі-нікалі да 100 і больш рублёў, але ўсёж лічыцца з’явай новай, якая практыкуецца толькі ў заможных сялян; часам, такім чынам, заможныя бацькі пасяваюць выдаць сваю яўна зняслаўченую дачку за беднага хлопца. Такім чынам, ён не можа мець значнай ролі ў сялянскім побыце. Але, з другога боку, і “выправа” і “пасаг”, які даецца маладой, хоць і заклапочваюць сям’ю, выдаючую замуж дачку, але не могуць мець вялікага значэння для той сям’і ў якую яна аддаецца, па-першае таму, што выправа належыць не ёй, а нявестцы, па-другое таму, што яна складаецца з такіх рэчаў, якія не маюць вялікага значэння ў гаспадарцы. Пагэтаму усё значэнне прыходзячай ў сям’ю асобы, зводзіцца выключна да каштоўнасьці яе, як працоўнай сілы і выбар маладой па гэтаму меркаванню вельмі строгі. Прыгажосць, нават часьцяком багацце, не маюць вялікага значэння ў вачах беларуса; яму перш за ўсё патрэбна працавітая асоба і толькі гэта якасць мае вялікае значэнне на погляд гаспадара. Адзіная якасць, якая патрабуецца ад маладой, гэта яе нявіннасць; яна яшчэ і цяперпаўсюдна мае вялікае значэнне. Страціўшая нявіннасць, зняслаўленая дзяўчына з цяжкасьцю знаходзіць сабе жаніха, часьцеё за ўсё ўдаўца, або беднага сірату. Дзяўчына, выходзячая замуж і падмануўшая жаніха і яго сям’ю на конт сваёй нявіннасьці, не толькі сама падвяргаецца асуджэнню, але і ўся яе сям’я, сваякі і сваты, часта, нават, такое вяселле зусім не адбываецца, ці ж маладыя разыходзяцца і не жывуць разам па некалькі гадоў, пакуль не паміpацца. Нявіннасць часта правяраецца перад царкоўным вянчаннем. Адна частка вяселля вясельнага рытуалу – пасад, калі маладую садзяць на ганаровае месца, адбываецца ў шмат якіх месцах не пасьля, а перад царкоўным вянчаннем. Рэдка хто з дзяўчат адважыцца сесьці на пасад не будучы нявіннай, а калі яна не сядзе, то служыць яе прызнаннем у згубленні нявіннасьці. Тады ўвесь вясельны картэж  жаніха, пасьля добрай сваркі, часцяком бойкі, папрокаў, патрабаванняў вяртання выдаткаў, паварочвае назад і вяселле разладжваецца. Толькі заступніцтва жаніха, прынімаючага грэх на сябе, можа выратаваць

дзяўчыну, але і тады яна не пазбегне папрокаў сваёй і жаніховай радні. Цікава, што шмат у якіх месцах, дзе захаваліся больш старынныя рысы вясельнага абраду, нявіннасць патрабуецца і ад жаніха і адмаўленне яго сесьці на пасад вядзе да такіх жа вынікаў[21].

Пры гэтым маральным абавязкам для хлопца зняславіўшага дзяўчыну, жаніцца на ёй. На гэтым настойвае не толькі ўся сям'я дзяўчыны , але і ўся яе радня, так жа як і радня жаніха, так што хлопецу рэдка ўдаецца пазбегнуць жаніцьбы. Сумеснае жыццё без царкоўнага вянчання, "на сумленне", хаця і сустракаецца, але вельмі рэдка, звычайна, паміж далёкімі родзічамі, якія, аднак, па царкоўных правілах і не могуць вянчацца.

Вышэй было ўпамянута аб вясельных выдатках і выправе маладой[22].

Цікава разгледзець гэта пытанне больш падрабязна, так як гэта мае важнае значэнне ў сялянскім побыце. Згодна з дадзенымі адной маёй крыніцы вясельныя выдаткі дасягаюць мінімум рублёў 30 з боку маладога і рублёў 20-25 з боку маладой, а максімум у маладога даходзіць да 75 рублёў і ў маладой да 50 рублёў. Асноўную частку выдаткаў з аднаго і другога боку займае гарэлка, якая у маладога займае палавіну выдаткаў, а ў маладой траціну[23]. Выправа ці пасад, якія маладая павінна унесьці абавязкова, якая б яна ні была бедная, - гэта адзенне на год, а па папярэдніх парадках на 7 гадоў, спальная бялізна (падушка, пухавікі, пярына і коўдра (із дамашняй шэрсьці) і што-небудзь з быдла – авечку, сьвінню, карову. Аб выправе больш заможнай маладой мы можам саставіць меркаванне па некаторым ранэнням валасных судоў. Адно рашэнне пералічвае такую выправу: бочка у 3 р., 2 кублы (ёмкасць для захавання бялізны і вопраткі) – 4 р., вяроўка – 1 р. 50 кап., 2 сякеры на 2 р. 50 кап., сьвітка – 2 р., сані -1 р., бочка бульбы – 3 р., 2 цюфякі – 2 р., бычок – 3 р., 47 вазоў гною – 9 р. 40 кап., клець - 10 р., усяго 41 р. 40 кап. Па другому акту маладая мела карову, двое цялят, авечку, сьвінню і інш. (Пінск).

Што да юрыдычнага значэння шлюбнага пагаднення, то перш за усё адзначым, што яно можа быць скасавана сватаўства і пасля зговару, так званых другіх і трэцціх "запоін". Як для маладога, так і для маладой лічыцца ганьбай

---

21) Доўнар-Запольскі, Беларускае вяселле ў культурна-гістарычных перажытках, "Этн. Обозр." Кн. XIX, стр. 26 і наступныя.

22) Вясельнага абраду я тут не прывожу, хоць ён і мае дачыненне некаторымі сваімі рысамі да звычайнага права. Вясельны абрад апісаны і разгледжаны мной у наступных працах: "Беларускае вяселле і вясельныя песьні", Кіеў 1888 г., "Беларускае вяселле ў культурна-рэлігійных перажытках" Этногр. Обозр., кн. XVI, XVII, XIX; "Матывы вясельных песень піньчукоў", Гродна 1893 г.

23) Прывяду прыкладную смету вясельных выдаткаў сярэдняй сям'і (Мінскі у.)

Выдаткі у маладога: 3-5 р. на гарэлку пал час запоін (3-5 гарнцаў). 1 р. музыку падчас вяселля. 5-10 р. гарэлка на вяселле. 3-10 р. святару. Дробныя выдаткі: Дружкам за выкуп маладой5-10 кап. Брату маладой за выкуп 5-15 кап. За выкуп куфара – брату 5-30 кап. За провады куфара музыцы 3-5 кап. Непрадбачанныя выдаткі 50 кап. – 1 р. і больш. На прыём бацькоў 3-4 р.

Выдаткі у маладой менш: На запоінах 80 кап. – 1 р. 20 кап. Гарэлка на вяселле 3-8 р. Каравай 1-2 р. Дробныя выдаткі: кветкі, пачсы, і інш 1-3 р.

Наша смета састаўлена на аснове фактычных дадзеных, але гэта вяселле не багатае, і таму ў заможных сем'ях усе выдаткі павялічваюцца, хоць самі артыкулы выдаткаў застаюцца нязменнымі. Да вясельных выдаткаў часткова адносіцца і вясельная вопратка маладой і куфар "сундук для выправы": падвянечнае сітцавае убранне каля 1 р. 50 кап., куфар 2-3 р., сьвіткі 7-10 р.

адмова процілеглага боку, але пасьля сватаўства гэта лічыцца больш магчымым і здараецца часьцей, чым пасьля запоін. Патрэбны вельмі сур'ёзныя прычыны, каб адзін з бакоў адмовіўся пасьля зговару і паважнейшай, амаль ці не адзінай, прызнаецца нецнатлівасць маладой, калі яна сама прызнаецца ў гэтым, ці дакладна выведваецца. Ва ўсякім разе пацярпелы бок патрабуе панесеных ёю страт. Так, напрыклад, па аднаму рашэнюю такія выдаткі налічаны ў памеры 10 р. (Рэчыца). Іншая справа вылічвае выдаткі ў такой жа суме, але перадае пры гэтым некалькі цікавых акалічнасьцей[24].

Вяселле, г. зн. уся працэдура рытуалу, мае для сялян значэнне акта, які ўзаконьвае шлюбныя адносіны. Царкоўнае вянчанне не мае вялікага значэння і яго выконваюць толькі таму, што гэтага патрабуе святар. Вянчанне з'яўляецца толькі адной із частак рытуалу, непасрэдна пасля ці перад якой (гледзячы па мясцовасьці) здзяйсняецца самая значная яго частка – пасаджэнне маладых на пасад. Там дзе гэта здзяйсняецца перад вянчаннем, там, у абазначаных намі выпадках, магчымы разрыў, але хлопец з гэтага моманту лічыцца "чалавекам", а

24) Селянін вёс. Восава Панас Шчэрба заявіў валасному суду аб тым, што ў траўні месяцы прошлага году прыйшоў да яго сватаць яго дачку Анну селянін вёскі Баранавічы Рыгор Сулім за свайго сына Андрэя, на што ён быў згодны, а так як усё адбывалася напярэдадні Пятрова паста і Рыгор Сулім хацеў здейсніць вянец да пасту праз два дні пасьля сговару, але ён Панас, будучы яшчэ не падрыхтаваным, прапанаваў адкласьці вянец на час пасля Пятрова пасту, чым Рыгор Сулім застаўся незалаволены, а яго жонка прыйшла да яго Панаса ў хату і стала непаважна выказвацца, што яна зусім не хацела браць за свайго сына яго дачку Анну, але раз чалавек ужо зрабіў запоіны, то хай так і будзе; затым стала стукаць кулаком па сталу і выказваць розныя пагрозы, што падачыла яго дачка Анна , спалохалася і прымаючы да ўвагі, што калі маці маладога, яшчэ не ўзяўшы яе, ужо пагражае, то што будзе, калі яна пыйдзе да іх у хату? Тады, мабыць, ёй не будзе добрага жыцця, а пагэтаму зусім адмовілася ісьці замуж за Андрэя. Не жадаю няволіць сваю дачку Анну выходзіць замуж без яе згоды, ён абвясьціў аб гэтым і Рыгору Суліму. Але той пачаў упарціцца і патрабаваць вяртання яго страт, як бы затрачаных ім пры запоінах, 40 руб. А, як яму добра вядома, выдаткі з боку Рыгора не перавышалі 10 руб. і гэтыя грошы ён яму вяртае і яго дачка прыносіла гэтыя грошы да яго два разы, але Рыгор не згаджаўся іх забраць і разам з тым папярэдзіў прыходскага святара, каб ён, у выпадку калі яго дачцэ Анне знойдзецца іншы жаніх, то не вянчаў яе, як даўшую абяцанне яго сыну Андрэю, што святапр прыняў да ўвагі і абвясьціў яго дачцы Анне, што пакуль яна не задаволіць патрабаванні Рыгора Суліма, ён не дасць ёй вянца. А так яна па-першае і не ў стане заплаціць Рыгору Суліму 40 руб., а, па-другое, добра ведае, што яму не было куды растраціць такую суму грошай на запоіны; на 40 руб. можна справіць усё вяселле, а на запоіны выйшла з яго боку гарэлкі не больш як 5 руб., а закуска уся была яго, так як гэта было ў яго хаце і таму ён прапануе яму 10 руб., але той не бярэ. Так як для яго дачкі знаходзіцца іншы жаніх і ён гатовы выдаць за яго сваю дачку, а Рыгор Сулім перашкаджае ў гэтым, то ён просіць разабраць справу сумленна, каб задаволіць Рыгора Суліма і даць яго дачцэ магчымасць выйсьці замуж па жаданню. – На прапанову Рыгору Суліму, ці не згодны ён памірыцца з Панасам Шчэрбай, маючы на ўвазе тое, што прымусіць сілай дачку Панаса Анну выйсьці замуж за яго сына Андрэя, па-першае, няма ніякай магчымасьці, а па-другое, нельга чакаць ад такога адружання добрага жыцця, і што Рыгор Сулім паказаў, што ён згодзен разысьціся з Панасам Шчэрбаю, толькі тады, калі той верне яму выдаткі 40 руб., якія ён растраціў на запоіны і на здабыванне нявесткінай метрыкі з Галынскай царквы і перанясенне яе ў Гарбацэвічскую, дзе так сама плаціў і на запаведзі. Суд, разабраўшы скаргу, прыйшоў да той высновы, што так як суду добра вядома якімі бываюць траты на запоіны, а таксама вядома якімі бываюць траты на здабыванне метрыкі і на запаведзі, і прызнаў, што Рыгор Сулім не мог патраціць больш як 10 руб., але не жадае прыняць іх ад Панаса Шчэрбы, будучы пакрыўджаны адмовай нявесты, а таму каб узяць верх над Шчэрбаю і яго дачкой Аннай, ён патрабуе ад іх вяртання небывалых выдаткаў 40 руб., а таму суд па свайму перакананню і па сумленню вырашыў: каб Панас Шчэрба выплаціў Рыгору Суліму 12 руб.; што будзе безкрыўдна як для аднаго, так і для другога і яны болей не павінны выказваць прэтэнзій адзін да аднаго. Подпісы судзяў.

дзяўчына “жонкай”. Такім чынам, народ глядзіць на разыйшоўшыхся як на разведзеных.

Уступаючая ў сям’ю, ці сямейную абшчыну, жанчына карыстаецца ўсім неабходным для свайго ўтрымання, а таксама адзеннем пасля сканчэння гадавога тэрміну пасьля вяселля, із таго, што здабываецца агульнай з ёй працай сям’і. Але яна не атрымлівае правоў на агульную сямейную маёмасць, атрымліваючы толькі частку із маёмасьці, набытай ёй разам з чалавкам. Усё, што набываецца разам усёй абшчынай належыць не ёй, а абшчыне, асобамі якой лічацца і яе дзеці. Аб гэтым ужо гаварылася. Але затое яна без кантролю карыстаецца сваёй асабістай маёмасьцю, прынесенай ёю у выглядзе выправы. Яна валодае не толькі гэтай маёмасьцю, але таксама і ўсім прыбыткам які атрымліваецца з яе. Калі яна мае магчымасць зарабіць нешта з боку, то гэта таксама адносіцца да яе асабістай маёмасьці. Яна можа ёю распараджацца на свой погляд і ў выпадку сьмерці чалавека, уся яе маёмасць разам з прыбыткам, калі такі ёсць, выдаецца ёй сям’ёй пакойнага. Калі чавек з жонкай разыходзяцца, то выправа вяртаецца жонцы[25].

Адносіны да маладой, як да, перш за ўсё, працаўніка, адлюстроўваецца і ў тым, што калі яна чаму-нібудзь не працуе на сям’ю чалавека, то апошняя адмаўляецца карміць яе. Навыя ўмовы сялянскага жыцця прыводзяць калі-нікалі да доўгай адсутнасьці чалавека, напрыклад ваенная служба і інш. У такіх выпадках маладая часцяком не ўжываецца з сям’ёй мужа і вяртаецца ў хату бацькоў да вяртання свайго чалавека. У такім выпадку сям’я мужа адмаўляецца даваць ёй на утрыманне, а суд не абавязвае яе да гэтага (Пінск). Па аднаму рашэнню відаць, што сын, ідучы на службу, зрабіў распараджэнне, каб яго жонцы быў дадзены з агульнай мамасьці збожжа і быдла для пракармлення дзяцей, але не яе самой (Пінск).

---

25) Прыводзім адну такую справу (Целеханская вол.) не пазбаўленую цікавых падрабязнасьцей: Сялянка Вулькаўскага сельскага грамадства вёскі Вулькі Аксіння Іванаўна Мялік просіць аб спагнанні з яе чалавека Марка Станіслававіча Мяліка наступнай яе маёмасьці: бочка каштуючая 3 р., 2 кублы – 4 р., вяроўка (вужышча) – 1 р. 50 кап., дзве сякеры – 2 р., сані – 1 р., бульба адна бочка – 3 р., два тоўстыя цюфякі – 2 р., за прададзенага бычка – 3 р, і за 47 вазоў гною вывезенага на яго поле – 9 р. 40 кап., усяго на суму 31 р. 40 кап., і, акрамя таго, просіць даць ёй магчымасць забраць сваю клець, перанесеную мужам на свой плац, каштам 10 р. срэбрам, а ўсяго на суму 41 р. 40 кап. срэбрам. Адказчык Марк Станіслававіч Мялік супраць позвы сваёй жонкі Аксініі Іванаўны Мялік растлумачыў, што ён абазначанай маёмасьці вяртаць жонцы не жадае, таму што яна яго пакінула. Пазначаннаю маёмасць яна сапраўды прынясла да яго. З 47 вазоў гною, было ўзята толькі 4 вазы. Сведка Фёдар Восіпавіч Мялік паказвае, што сапраўды пазначаная маёмасцьбыла прынесена Аксінняй да свайго чалавека Марка, пры замужжы, гною ж было не больш 12 вазоў. Валасны суд у выніку знайшоў позву Аксініі Іванаўны Мялікавай да яе чалавека Марка Станіслававіча Мяліка даказанай у суме толькі 34 р. 40 кап., так як са сведчання сведкі высветлілася, што гною была атрымана толькі 12 вазоў, а не 47 вазоў, як заявіла ісціца. Бакі прымірыцца не пажадалі, а пагэтаму суд пастанавіў: “на основаніи 107 ст.общ.полож. обязать Марка Станиславова Мяликова выдать задержанное имущество и амбаръ женѣ своей Аксеніи Ивановой Мяликовой и уплатить за проданного бычка 3 рубля и за 12 возовънавоза 2 рубля 40 коп., въ случаѣ же не окажется прописанного имущества, взыскать съ  Марка Мялика въ пользу Аксеніи Мяликовой по стоимости оного 29 руб., а всего 34 рублей 40 копеекъ; в искѣ же ещё 7 рублей за навозъ Аксеніи Мяликовой отказать, как недоказанномъ. Настоящее рѣшеніе недовольной сторонѣ предоставляется право обжаловать въ Пинское Уѣздное по крестьянским дѣламъ Присуствіе въ тридцатидневный срокъ

Такі погляд дастоткова рэльефна паказваецца яшчэ і тым, што часам удава ці яе бацькі патрабуюць платы за адпрацаваны ёю час у сям'і мужа. Гэта асабліва часта бывае тады, калі чалавек памёр маладым. Так, напрыклад, у адным выпадку бацька ўдавы патрабаваў з сям'і чалавека плату за адпрацаваны ёю час у выглядзе 12 п. жыта, па 2 п. грэчкі, аўса, ячменю, проса, і яравой пшаніцы і 1 воз сена; на судзе яны памірыліся: брат пакойнага прызнаў позву і згадзіўся выдаць палову патрабуемага (Рэчыца). Па іншаму рашэнню, хоць суд і адмовіў у выдачы патрабуемай узнагароды, але толькі таму, што бацька пакойнага прапанаваў нявестцы жыць у яго і на судзе было даказана, што і раней яны жылі ў згодзе і ў нявесткі не было падставы зыходзіць з сям'і мужа[26].

Да пытання аб адружанні прымыкае пытанне аб разводзе. Аб фармальным разводзе сярод сялян ведаюць мала хто. Але практыкуецца развод без пасрэдніцтва царквы: непаладзіўшыя чалавек з жонкай проста разыходзяцца. З маючыхся ў нас рашэнняў відаць, што калі развод бывае добраахвотны з абодвух бакоў, то жонка атрымлівае прынесенную ёй маёмасць. Калі ж адзін з бакоў пакідае другі, то апошні лічыць сябе маючым права аставіць маёмасць першай. Абодва бакі ў спрэчках настойваюць на тым, хто каго "прагнаў" (Пінск і Бабруйск)[27].

Другая асоба, якая з прычыну шлюбу прыходзіць у чужую сям'ю, - гэта прымак, г. зн. зяць, які пераходзіць жыць у сям'ю жонкі. Прычыны, па якіх сям'я дзяўчыны шукае прымака, звычайна заключаюцца ў тым, што ў сям'і няма, ці не хапае працаўнікоў. Калі селянін мае толькі дочак, ці калі ўдава застаецца на гаспадарцы з малымі дзецьмі, нарэшце дзяўчаты-сіраты, застаўшыяся на бацькавай зямлі, - ва ўсіх такіх выпадках шукаюць прымака. Але ў прымакі ідуць не вельмі ахвотна і толькі па неабходнасьці, калі сям'я бацькі шматлікая і малазямельная, ці зусім беззямельная, - удаўцы, сіраты, адстаўныя жаўнеры.

---

26) Для прыкладу прывядзём наступнае рашэнне вал. суда Целеханскай воласьці: Селянін Сьвятапальскай воласьці вёскі Коланка Мікалай Восіпавіч Ільчук скардіцца на селяніна вёскі Азарычы Сямёна Фёдаравіча Барысевіча, што яго дачка была замужам за яго сынам і калі яе чалавек памёр, то яны выправілі яе датэрмінова, з быдлам, якое было дадзена ёй у выправу, але не далі ні хлеба, ні сена, ад свінні забралі парасят, якія каштуюць 6 руб.; просіць прысудзіць дачцэ, як працаваўшай у іх гаспадарцы 3 гады і даць хлеба, шанок жыта, 10 фунтаў сала, 40 пудоў сена для быдла і 6 руб. за парасят. Сямён Барысевіч супраць скаргі былога свайга свата, патлумачыў, што нявестку ён не праганяў, бо яна магла жыць у яго да вясны разам са сваім быдлам, а так як яна без прычыны з'ехала ад іх, забраўшы сваё быдла, авечку і сьвінню, то ён не лічыць сябе абавязаным даваць ёй ні хлеба, ні сена, ні сала, парасят жа ён сапраўды перабіў з жалю, калі яны забралі сьвінню, а парасят сасуноў ад 4-ох дзён аставілі, аднаго парасёнка – зажаранага - прадставілі суду; нявестка ж, так як яны жылі заможна, можа вярнуцца да іх і жыць колькі захоча, хоць да выхаду замуж, акрамя таго нявестка прывяла з сабой карову і двух цялят , а забрала тры галавы быдла і цялёнка. На аснове 107 ст. палаж. кр. валасны суд схіляў бакі да прымірэння, чаго не адбылося, а пагэтаму пастанавіў: "какъ со стороны Семена Борисевича не было дано никакого повода къ оставленію ихъ невесткой, какъ онъ и нынѣ заявилъ, что она можетъ и теперь возвратиться къ нему со скотомъ своимъ и жить у него, сколько пожелаетъ, въ домогательствѣ Николая Ильчука о выдачѣ ему для дочери , хлѣба, сѣна, а также о взысканіи 6 руб. за поросятъ отказать, тѣмъ болѣе, что Ильчукъ, забравъ свинью, должен былъ брать вмѣстѣ и поросят, а когда не давали, то долженъ заявить старостѣ, и до рѣшенія дѣла оставить свинью. О чём объявить сторонам».

27) Гл. Прыкметы на стр 118.

Адносна становішча прымака ў хаце цесьця ці жонкі беларуская прыказка кажа “прымачы хлеб – сабачы”, сведчучы тым аб залежным і цяжкім стане прымака.

З юрыдычнага боку прымак, па народнаму погляду, становіцца ў тыя ж адносіны да сям’і цесьця ці жонкі, прыняўшай яго, як і нявестка да сям’і чалавека. У Бабруйскім уездзе аб прымаку кажуць “выйшаў за жонку”, яго маёмасць называюць выправай.

Прымак таксама прыносіць сваю маёмасць. Памеры яе бываюць розныя і залежаць ад умоў і заможнасьці абодвух бакоў. Як паказвае адна справа, прымак прынёс 2 кані, 6 галоў быдла, дзвюх цёлак , сьвінню, двух авечак, кубел з вопраткай, чашу льнянога семя і інш. – усяго на 142 р. (Пінск). У іншым выпадку прымак прынёс 8 галоў быдла і 2 кані, ці ж прыносіць пабудовы і быдла і інш.

Унесеная прымаком маёмасць, выправа належыць асабіста яму, хоць ён і абавязаны выкарыстоўваць яго для гаспадарчых патрэб сям’і (напрыклад коней). У выпадку падзелу, разводу і г. д. ён отрымлівае усё сваё назад.

Але прымак рэдка уступае ў сям’ю жонкі без умоў, палагаючысь толькі на сумленне, хіба што ўжо вельмі бедны. Звычайна ж прымак ці яго бацькі вельмі дакладна вызначаюць з бацькамі нявесты ўмовы, на якіх ён уступае ў сям’ю.

Гэтыя ўмовы галоўным чынам адносяцца да зямлі. Яны бываюць вусныя і пісьмовыя[28]. Абодва бакі павінны выконваць дамову. Калі апошняя парушана цесьцем, то суд выдзяляе із яго маёмасьці і зямлі тое, што трэба было б атрымаць прымаку, як нашчадку; калі дамова парушана прымаком, то суд, ці прымушае жыць разам у сям’і цесьця, ці пазбаўляе яго права на маёмасьць[29].

Адносіны прымака да зямлі і маёмасьці сям’і беларусы часта абазначаюць выразам, што такі-та прыйшоў у прымы “за гаспадара”, “за сына”, апошняя адзнака даецца і прыёмным сынам. Гэтымі выразамі паказваецца на тое, што

---

28) Пар. “Этнограф’ Обозрѣніе” 1891 г. №1, стр. 111. “О семейныхъ дѣлахъ бѣлоруссовъ” М. В. Цясленка. Прывядзем дадзеную ніжэй дамову (Гарбацэвічская вол.): «Я, нижеподписавшійся крест. Дер. Ново-Старцовъ, даю настоящее обязательство крест. Федору Андрееву Тимко въ томъ, что женивъ его на своей дочери Анастасіи и принимая въ свою семью, я должен считать его, какъ родного сына, и сообразно этому обходиться съ нимъ, т. е. у насъ должно быть все общее, как в хозяйстве, так и имуществѣ. Но имѣя также родныхъ сыновей, хотя еще и малолѣтнихъ желая обеспечить Федора Тимко на случай моей смерти, сим обязуюсь и дѣтей моихъ (обязую) жить постоянно въ одной семьѣ. В случаѣ же если мои дѣти, достигнувъ возраста, почему либо неполадятъ съ Федоромъ, то онъ на случай раздѣла имѣеть право взять себѣ третью часть моей земли и третью часть движимого имущества въ настоящемъ его составѣ. Если же Федоръ, еще при жизни моей, не имѣя отъ меня ни въ чемъ обиды, или же по моей смерти при малолѣтстве моихъ дѣтей по какому либо капризу захочетъ бросить мое семейство, то он теряетъ право на прописанное выше мое обязательство, исключая обыкновенного приданного, которое я долженъ дать за моей дочерью Анастасіею. Настоящее обязательство должно храниться или на рукахъ у самого Федора Тимко или же у лица, которому онъ довѣряетъ. Крест. Никифоръ Гаврильчинъ, а за него неграмотного расписался Яковъ Тимушевъ.

29) Прывядзем з гэтай нагоды адно вельмі цікавае рашэнне Гарбацэвічскага валаснога суду (за 1885 г.): Селянін вёскі Дзедна Нікіфар Трохвухаў прынёс скаргу валасному суду, што яго родны сын Іван, будучы адданым у прымы да селяніна той жа вёскі Івана Рosліка, не хоча жыць ў яго, Нікіфара, без жонкі, жонку ж Іван Рослік не адпускае на той падставе, што яго дачка выйшла замуж за Івана таму, што ён быў узяты ім у прымы для таго, каб мець у гаспадарцы працаўніка. Пярэчанні адказчыка не запісаны. Сведак не былo. Валасны суд, выслухаўшы скаргу і паказанні адказчыка, вырашыў: аставіць Івана прымаком у хаце Івана Росліка разам з яго жонкай Насцяй на той падставе, што па мясцоваму звычаю прымак лічыцца неадемным членам сям’і, якая яго прыняла. Подпісы судзяў.

прымак з'яўляючыся ў сям'і жонкі, выгаварыў сабе тыя ці іншыя правы на зямлю і маёмасць. Калі прымак гэтага не зрабіў, то ён не можа патрабаваць ні таго, ні другога. Так, у адным выпадку ішла спрэчка аб тым, ці прымак прыйшоў сам, ці яго ўзяла жонка. Прымак даказваў апошняе, але брат яго жонкі даказваў, што ён "прыбыў сам і быў у яго сястры нечым падобным на батрака". На гэтай аснове суд адмовіў у выдзяленні прымаку зямлі. У другім выпадку прычына адмовы ў выдзяленні зямлі тая ж самая: адказчык пераконваў, што прымак жыў у сям'і яго бацькі толькі "часова" (14 гадоў), хоць суд і матываваў сваю адмову тым, што па опісях зямля не лічыцца за прымаком (Пінск). Але такая матывіроўка не мае падставы ў звычайным праве, як зараз пабачым. Адным із доказаў правоў прымака на зямлю служыць і тое, што цесць прынімае яго "як не маючага сыноў на поўную гаспадарку" (Пінск), ці, як кажа адно рашэнне, "быў прыняты за сем'яніна, а не працаўніка" (Бабруйск). Калі прымак не зрабіць адпаведнай дамовы вусна ці пісьмова перад уступленнем у чужую сям'ю, ці калі апошняя упарта адмаўляецца прызнаць за ім якія-небудзь правы на маёмасць і даказаць адваротнае прымак не можа, то ён апынаецца ў становішчы простага найміта і як такі мае права на ўзнагароду ад сям'і за адпрацаваны час. І народнае меркаванне, ва ўсякім разе, прызнае за ім гэта права, хоць суд часта адмаўляецца па прычыне непадсуднасьці, так як кошт позвы перавышае яе кампенсацыю. Так, у адным выпадку, прымак патрабаваў ад сваёй жонкі і падчаркі, прыняўшых яго, за 16 гадовую працу па 20 руб. пагадавой аплаты і кампенсацыю за патрачанную яго маёмасць. Пытанне аб зямлі не уздымалася, таму што яно не было абгаворана пры заключэнні шлюбу, але сведкі не адмаўлялі іск па сутнасьці, і жонка прапануе яму вярнуцца ў назад. Суд адмовіў па непадсуднасьці (Пінск). У другім выпадку грамадская думка па падобнаму пытанню была выказана больш пэўна. Прымак 12 гадоў працаваў у гаспадарцы жонкі. Брат жонкі, падросшы, пачаў праганяць прымака. Тады па яго скарзе, "сяляне ўсёй вёскі прызналі, каб Арцём Левашук (шурын прымака) даў яму палавіну хлеба і сена ураджаю гэтага году і на наступныя гады трэцюю частку". Гэта было дадзена яму грамадскасьцю за яго працу. Прымак прасіў валасны суд ці зацьвердзіць рашэнне грамадства, ц прысудзіць яму за 12 гадоў па 50 руб. у год. Суд адмовіў па непадсуднасьці (Пінск), але прынцып звычайнага права зразумелы: прымак, хаця і не абумовіўшы пры сваім уступленні ў гаспадарку жонкі сваіх праў на маёмасць, згодна сялянскай грамадзкай думцы лічыцца маючым права патрабаваць узнагароду за працу і выдзялення часткі маёмасьці. У іншых выпадках, калі прымак не звязвае пытанне аб сваёй узнагародзе з пытаннем аб кошце позвы, патрабуючы толькі часткі зямлі і маёмасьці, то і суд не адмаўляе ему ў гэтым патрабаванні. Так, па аднаму рашэнню суд даў прымаку палову ўсёй маёмасьці, нашчадкам якой была яго палчарыца (Пінск).

Ва ўсякім выпадку прымак заўсёды адзінае настойвае на тым, што ён працаваў, "працаваў сам на ўсёй гаспадарцы" (больш цяжкая праца), і "працаваў колькі мог" і г. д. і суд таксама пры дапамозе сведак стараецца падцвердзіць

гэты факт[30]. Але нідзе мы не сустракаем нават намёка на якое-небудзь права па радству; відавочна працоўны прынцып мае выключнае значэнне ў вачах сялян.

Калі прымак паспеў абгаварыць сваю будучую працу у чужой сям'і і можа на судзе спаслацца на існаванне яго дамовы з жонкай або цесьцем, то яго права прызнаецца бязспрэчным. Часта прымакі, для большай абараны сваіх правоў абумоўліваюць яшчэ і такое, каб цесць паміраючы "адказаў", г. зн. запавёў яму тую частку, якую аддаў пры жыцці. У адным рашэнні з такой нагоды, быў выяўлены факт завяшчання цесьця на карысць прымака, хоць жонка апошняга памёрла на 7 гадоў раней бацькі, прымак ажаніўся на другой і працягваў жыць разам і па сьмерці цесьця суд прызнаў яго правы (Пінск). Калі цесьць здзейсніў перадачу прымаку "прыняў яго ў хату і перадаў як зяцю усю гаспадарку", як кажа одно рашэнне , то ён ужо не мае права адмовіць яму ў маёмасьці. У адным выпадку суд сам вылучыў трэццюю частку маёмасьці (Рэчыца). Калі-нікалі прымакі спяшаюцца замацаваць за сабой абгавораную маёмасць і патрабуюць выдзяла пры жыцці цесьця ці цешчы, не разлічваючы на моц сваіх правоў у выпадку іх сьмерці (Рэчыца). Гэта акалічнасць, у такім выпадку, абгаворваецца перад вяселлем: ці павінен прымак жыць да сьмерці гаспадара ці гаспадыні, жыць вызначаны час, ці можа сысьці ва ўсякі час. Калі-нікалі з гэтым звязваецца і большая ці меншая частка правоў на маёмасць. Але суд падтрымлівае правы прымака. У адным выпадку прымак і яго жонка скардзіліся на брата жонкі, што

30) Прывядзем такі прыклад: "1881 года февраля, 25 дня. Мы крестьяне Киселевичского сельского общества сего числа на сельскомъ сходѣ въ присуствіи сельского старосты, слушали жалобу крестьянина дер. Киселевичъ Ивана Рослика о томъ, что онъ былъ принятъ въ примы Григорьемъ Гаврильчикомъ къ дочери его Агафіи и что тесть его Григорій, будучи уже въ пожилыхъ лѣтахъ, остался вдовымъ въ 1866 г. и у него остался тогда еще малолѣтний сынъ Михаилъ, то онъ съ своею женою, а его дочерью, приняли хозяйство на себя, обрабатывали землю, уплачивали за пную всѣ денежные повинности и отбывали натуральныя, а также одѣвали и содержали на своемъ иждивеніи какъ отца, такъ и сына его Михаила. Отец ихъ Григорій большею частью ходил по службамъ и болѣе или менѣе иногда помогалъ намъ въ хозяйственномъ отношеніи, а сынъ его какъ бывшій въ народномъ училищѣ, такъ и вышедши изъ оного, требовалъ за нимъ ухода. Теперь же какъ уже поднялся на ноги, также не хочетъ заниматься ремесломъ, а ходить по заработкамъ, но считая себя наслѣдникомъ послѣ отца, предлагаетъ ему выбраться изъ дома и съ земли и не дозволяетъ ему даже поставить себѣ на усадебной землѣ жилую хату, наговаривает отца, чтобы совсѣмъ ихъ выдалить, иѣея в виду арендовать землю. А какъ онъ прожилъ болѣе 18 лѣтъ в отцовскомъ домѣ и был прринятъ за семьянина, а не за работника и никогда не ожидалъ, чтобы могъ быть угоденъ, старался удержать землю, обрабатывать таковую и отбывать всѣ какъ денежныя такъ и натуральныя повинности, а потому проситъ общество обсудить его семейное положеніе и дать ему возможность къ существованію. – Обсудивъ сію жалобу Ивана Рослика, мы признали справедливою, и какъ намъ вполнѣ извѣстно, что хотя по именному списку и записана земля на Григорія, но онъ ею совершенно мало занимался, а сынъ его Михаилъ и совсѣм и совсѣм не занимался, а управляетъ какъ землею такъ и хозяйствомъ уже болѣе 15 лѣтъ зять его Иванъ Росликъ, а потому выдаленіе его съ земли (судѣ) призналъ неправильнымъ, и допустить это находит это находитъ невозможнымъ потому, что самъ Григорій уже въ преклонныхъ лѣтахъ, землею заниматься не может; а сынъ его имѣя 29 лѣтъ отъ роду, будучи разбалованъ, то такъ же какъ землею не занимался и заниматься не будетъ, а только имѣетъ въ виду то, что если он будет арендовать землю и сѣнокосъ, то будет на пргулъ имѣть деньги, а если же зайдет недоимка за землю, то уплата таковыхъ, конечно, падет на общество, - а потому единогласно приговорили: чтобы Иванъ Росликъ какъ жил до сихъ поръ, такъ долженъ жить и впередъ и какъ занимался землею, такъ и долженъ заниматься, а если сынъ Григорія Михаилъ захочетъ ожениться и заняться хозяйствомъ и землею, то долженъ жить вмѣстѣ и обрабатывать землю вмѣстѣ, а если не захочет жить въ одной хатѣ, то пусть Иван поставитъ себѣ хату другую, а ему уступитъ хату отцовскую». Подпісы.

апошні гоніць іх з хаты. Суд, аднак, прызнаў надзел агульнай маёмасьцю і загадаў ім карыстацца ім сумесна (Пінск).

Правы прымака і ў выпадку сьмерці яго жонкі, звязваўшай яго з сям'ёй цесьця. Так у адным выпадку прымак атрымаў частку зямлі, хоць жонка і памёрла (Пінск). Із другога рашэння відаць, што прымак пасьля сьмерці жонкі ажаніўся на іншай і прадаўжаў жыць у сям'і першай жонкі, а пры падзеле атрымаў частку маёмасьці, у тым ліку і тры надзелы (Рэчыца). У іншай справе прымак таксама пасьля сьмерці сваёй жонкі ажаніўся на іншай і пры падзеле атрымаў палавіну зямлі; ён прыйшоў у прымы да надзялення сялян зямлёй і надзел быў запісаны на яго імя, хаця ў яго быў пасынак, сын уладальніка зямлі. Надзел перайшоў да яго другой жонкі, прыняўшай у сваю чаргу прымака. Суд прызнаў завяшчанне прымака, перадаваўшую сваю частку зямлі родным сынам і адмовіў у позве пасынку, падцвердіўшы толькі яго права на палавіну надзела. (Пінск)[31]. Такім чынам, прымак, прыйшоўшы ў сям'ю жонкі ў якасьці сем'яніна, атрымлівае права на зямлю ў той ці іншай ступені. Менш відавочным пытанне выглядае тады, калі прымак не заключаў папярэдняй дамовы: у апошнім выпадку народны звычай сутыкаецца з пісаным законам, якім часьцяком не супраць скарыстацца другі бок. Але і вясковае грамадства і валасны суд стаяць на баку прымака. Ваганні можна сустрэць толькі у тых выпадках, калі, пры адсутнасьці пісьмовай дамовы, прымак патрабуе зямлю асабіста для сябе, а не для сям'і. Суд, калі-нікалі, вагаецца і адмаўляе[32], але рэдкія выпадкі адмовы не могуць парушыць агульны прынцып; прымак заключаючы дамову з цесьцем, атрымлівае права на зямлю асабіста, без залежнасьці ад з'яўлення будучых нашчадкаў; тое ж сцвяржаюць і рашэнні судоў.

У справах, закранаючых прымака, вельмі цікава адзначыць наступную акалічнасьць: прымак, заключыўшы вусную дамову, а, калі-нікалі, і пісьмовую, звяртаецца для зацверджання сваіх правоў не прама ў валасны суд, але да вясковага сходу, яго праціўнікі пачынаюць справу ў судзе, часам нават у міравым судзе, ці звяртаюцца ў сялянскую канцылярыю. Няма выпадкаў, каб вясковы сход адмовіў прымаку, прычым прысуд грамадскасьці заўсёды настойвае на двух пунктах: на тым, што прымак быў прыняты ў сям'ю ў якасьці сем'яніна і на тым, што прымак "працаваў на зямлі", "плаціў падаткі" і інш. Вельмі зразумела чаму прымакі звяртаюцца да вясковага грамадства: апошняе значна больш

---

31) Заўважым, што спасылка на выкупны акт, па якому зямля лічылася за отчымам, на што і абапіралася яго ўдава, не мог мець вырашаючага значэння. У народным праве галоўнае значэнне мае бацькаўшчына і яна, на колькі магчыма, заўсёды адстойваецца не гледзячы на выкупныя акты; пры тым, калі б прымак лічыў зямлю сваёй у сілу выкупнога акта, ён не вылучыў бы свайму пасынку палавіну надзелу, маючы сам двух сыноў. Відавочна, што ён браў толькі тое, аб чым дамовіўся за сваю працу, астатняе ж, як бацькаўшчыну, аддаў законнаму ўладальніку.

32) Нам вядомы адзін такі выпадак адмовы із Бабруйскагаў.: прымак патрабуе палавіну зямлі ў сына свайго пакойнага цесьця. Але жонка прымака памёрла ўжо 16 гадоў таму назад, іх сыны не жывуць з бацькам і прымак жанаты на іншай. Суд адмовіў у позве прымаку, т. я. ён быў прыняты "на маёмасць жонкі і што пасьля яе сьмерці маюць права выказваць прэтэзію на маёмасць толькі застаўшыяся пасьля яе дзеці". Як ні катэгатычны гэты прысуд, але ён супярэчыць цэламу шэрагу фактаў, сцвярджаючых як раз адваротнае; мы не ведаем, якою была дамова прымака з цесьцем, напрыканец, калі прымак дрэнны гаспадар (яго родныя сыны зышлі на падробкі), то сімпатыі суду будуць не на яго баку.

кансерватыўней, чым валасны суд, на які робіць вядомы уплыў, касацыя яго рашэнняў начальствам і інш.[33]

Неабходна таксама адзначыць і тое, што у такіх выпадках, пры спрэчках, ні ў адной справе  няма нават упаміну пра якія б то ні было правы прымака на маёмасць праз яго жонку. Аб апошняй наогул не ўпамінаецца, жывая яна ці не: прымак сам па сабе патрабуе вырашэння яго справы і народны суд судзіць асабіста яго, згодна з яго дамовай з цесьцем. Гэта зразумела, таму што атрыманне жанчынай спажчыны на зямлю прызнаецца толькі ў выключных выпадках.

Што да адносін сына, пайшоўшага ў прымы, са сваёй сям’ёй, то і тут справа вырашаецца дамовай яго з братамі ці з бацькам.

На гэты конт у нас маецца некалькі судовых рашэнняў і наяўнасць дамовы ў спрэчках прымака з нашчадкамі зямлі яго бацькі не вызывае сумненняў.

Так, па адной справе, пайшоўшы ў прымы прасіў суд вярнуць яму права валодання бацькаўскай зямлёй, у памеры чацьвёртай часткі, па ліку братоў. Але апошнія спасылаліся на тое, што іхны брат зышоў ужо 22 гады назад і мае зямлю ў сям’і жонкі. Суд палічыў справядлівымі іх доказы і, спасылаючыся на сямейны спісы па якіх прымак лічыцца не ў сям’і свайго бацькі, а ў сям’і жонкі, адказаў яму ў позве (Пінск). У іншым выпадку сын, пайшоўшы ў прымы, скардзіўся суду на свайго бацьку і брата, што яны, валодаючы яго участкам, не плоцяць за яго падаткі. Прэтэнзій на зямлю ён не вылучаў. Суд абавязаў плаціць павіннасьці за сына (Пінск). У другой справе суд выказаўся неадназначна, але іншыя факты не астаўляюць сумнення ў тым, што адыходзячы член сям’і пазбаўляецца, у выдомых выпадках, правоў на зямлю. У адным выпадку два браты разышліся. Праз 60 гадоў іх сыны пачалі спрачацца: адзін з іх, пайшоўшы з маці да айчыма ў 54 годзе, ажаніўшыся і жыўшы ўвесь час там, патрабаваў ад свайго стрыечнага брата “хаця чацьвёртую частку недзелу”. Па сямейным спісам ён быў запісаны ў сям’і айчыма. Абапіраючыся на гэта, суд адмовіў яму, хоць гэта спасылка чыста фармальная:ісьцец, просячы ¼ частку замест палавіны, сам прызнаваў сябе не зусім прамым (Пінск). Падабнае знаходзім і ў іншых рашэннях (Бабруйск) і ўсюды заўважаецца адзін і той жа прынцып. Сям’я рашаецца адпусьціць сына ў прымы толькі ў рэдкіх выпадках, асабліва тады, калі сын у сваёй сям’і, як працаўнік, з’яўляецца непатрэбным, напрыклад па малазямельнасьці, вялікаму ліку братоў і інш.; відавочна, што сям’я, адмаўляючыся ад працы аднаго з яе членаў, тым самым жадае абмяжаваць яго правы на зямельную маёмасць. Вось чаму ў беларусаў практыкуецца дваякі спосаб адыходу ў прымакі, у адносінах да той сям’і із якой прымак адыходзіць. Выходзячы ў прымы ці поўнасьцю адмаўляецца

---

33) Прыводзім, із агульнай массы аналагічных прыкладаў,  адзін з прысудаў вясковага грамадства (Бабруйскі у.): “Мы , крестьяне Побоковичского сельского общества сего числа на сельскомъ сходѣ слушали просьбу крестьянъ Сидора Булацкаго и его швагра Григорія Бошака въ слѣдующемъ: послѣ смерти перваго просителя отца Григорія Булацкаго крест. Григорій Бошакъ поступилъ пріемышемъ въ семью покойнаго Григорія Булацкаго, женился на дочери его Агафіи и въ настоящее время проживаютъ вмѣсте съ Сидоромъ Булацкимъ; просятъ оставшуюся послѣ смерти Григорія Булацкаго землю въ количествѣ 17,5 десятинъ предоставить пополамъ въ пользованіе Сидору Булацкому и Григорію Башаку”. Подпісы

ад сваіх правоў на бацькоўскую зямлю і атрымлівае ад сваёй сям'і нейкую частку рухомай маёмасьці, гледзячы па яе дастатку, ці астаўляе за сабой частку правоў, г. зн. па дамове ён атрымлівае зараз жа, ці пасьля сьмерці бацькі, ці ў выпадку нязгоды з цесьцем, частку зямлі, па памерам заўсёды меншую той, якую ён мог бы атрымаць, застаўшыся ў сям'і бацькі. У такім выпадку ён ужо нічога, ці вельмі мала атрымлівае із рухомай маёмасьці. Менш за ўсё прымаку даюць тады, калі ён хоча утрымаць за сабой частку зямлі зараз жа пасля свайго адыходу, і болей усяго, калі ён вымаўляе за сабой права на зямлю ў выпадку нязгоды з цесьцем. У апошнім выпадку сям'я рызыкуе. У перамовах прымаюць удзел і бацькі нявесты, для якіх пажадана прыняць зяця з зямлёй і як мага з большай маёмасьцю.

Такім чынам сям'я, із якой асоба адыходзіць у прымы, пазбаўляецца яго працы, і стараецца тым самым абмяжаваць яго правы на зямлю, на якой прадаўжаюць працаваць астатнія члены; але ў сваю чаргу сям'я, выкарыстоўваючая працу свайго новага члена, абавязана ўзнагародзіць яго працу; калі ён не паставіў умову, каб яго ўзнагарода складалася з вядомай сумы правоў на агульную маёмасць яго новай сям'і, то апошняя, ва ўсякім выпадку, абавязана узнагародзіць яго працу платай, як наёмнаму працаўніку.

Да становішча прымака ў сям'і найбольш падобна становішча прыёмыша, ці сем'яніна наогул.

Сутнасць становішча прыёмыша – аднолькава, прынятага ў сям'ю дарослым, ці вырасшым у ёй і сем'яніна-здольніка, г. зн. асобы прынятай для сумеснай працы ў гаспадарцы, у іх адносінах да сям'і, сярод якой яны жывуць, аднолькава вызначаецца іх правам на зямлю. Наўрад ці вядомы спосабы заканнага ўсынаўлення.

Прапануючы усынавіць, прыняць да сябе ў хату, дамаўляецца ці з бацькам свайго будучуга прыёмнага сына, ці з гэтым апошнім, калі ён ужо дарослы, ці, што бывае часьцей за усё, з абодвумя; сутнасць дамовы складаецца ў тым, ці прымае гаспадар да сябе прыёмыша "за сына", ці проста бярэ да сябе без абавязковых умоў. На апошніх умовах прынімаюцца толькі круглыя сіраты і іншыя бяздомныя, здаючысь на волю прыймальніка, так як у іншых выпадках і сям'я не адпускае свайго члена, г. зн. не адмаўляецца ад яго працы, ды ён і сам не пойдзе, не спадзяючыся канчаткова ўсталявацца ў новай сям'і.

Выраз "за сына" мае у вачах сялян юрыдычнае значэнне. Прыём бывае абстаўлены featuring рознымі фармальнасьцямі. Пасля папярэдніх перамоў з бацькамі, апытання самаго прыёмыша і інш., збіраюцца пры сведках, сваяках, часам завуць і старасту, і тут яшчэ раз паўтараюць і удакладняюцца умовы прыёму. Гаспадар афіцыйна заяўляе, што ён бярэ такога-та "за сына", дасць яму па сваёй сьмерці, ці пры падзеле са сваімі сынамі, калі такія у яго ёсць, такую-та частку гаспадаркі, а прынімаемы павінен выконваць такія-та абавязкі. Апошнія звычайна складаюцца з павагі да прыёмнага бацькі, паслухмянасьці, не ў крывадушнай працы і "каб вочы закрыў, калі памру я, або мая баба" (жнка) і інш.

Калі-нікалі прыём, асабліва сірат, робіцца перад грамадой, ці з яе дазволу, што, аднак, не перашкаджае заключэнню яшчэ і пісьмовай дамовы з прынімаемым[34].

Беларусы бяруць прыёмышэй вельмі ахвотна, асабліва падлеткаў, нават шматсямейныя. З аднаго боку спадзяюцца на яго працу, з іншага – прыём сіраты з'яўляецца духоўным абавязкам заможнага селяніна, асабліва сваяка сіраты. Прынудзіць узяць можа нават грамадства ці родзічы.

Аддаюць перавагу ў прыёме сваякоў, асабліва тыя, хто разлічвае перадаць прыёмышу зямлю, гаспадарку. Беларус імкнецца да таго, каб "вачы закрыў" чалавек са свайго роду, менавіта той, хто пасля яго будзе жыць у яго хаце, араць

---

34) Прыводзім для ілюстрацыі наступны прыклад (Гарбацэвічская вол.): "1878 года мая 30 дня. Мы крестьяне дер. Вороновичи Захарій Анисьевъ и дер. Писчахъ Тимофей Болбасъ заключили условіе въ слѣдующемъ: 1, Я,Захарій Анисьевъ, будучи въ преклонныхъ лѣтах и не имѣя сыновей, а имѣю надѣльную землю при дер. Вороновичахъ въ количествѣ десят., сам таковую обрабатывать не могу и даже для себя и жены не въ силахъ заработать куска хлѣба, лучшее обдумалъ свою землю отдать въ вѣчное владѣние Тимофею Болбасу, на что общество изъявило согласіе, съ темъ, что Болбасъ обязан меня и жену мою взять къ себѣ и продержать до смерти, уважать насъ обоихъ какъ своихъ родителей, уплачивать за меня всѣ повинности , а также и землю, такъ чтобы ко мнѣ никто не имѣл претензій; при чемъ возлагаю обязанность на Болбаса таковую: такъ какъ у меня нынѣ есть малолѣтняя дочь, которая дойдѣтъ до совершенныхъ лѣтъ и прдется ей выдти въ замужество, - обязан онъ сдѣлать своимъ капиталомъ свадьбу и дать приданое по обычаю крестьянскому, а впредь до выхода ея въ замужество должна находиться при Болбасу, и онъ ее не долженъ обижать, а уважать какъ свою родную; после смерти нашей никто не вправѣ отъ Болбаса отнять землю. 2, Я, Болбасъ, на предложеніе мнѣ Анисьевымъ согласенъ, обязуюсь какъ самъ такъ и семейство мое уважать Захарія и жену его, какъ своихъ родныхъ". Подпісы.

У дадзеным выпадку прыёмыш прыняты з пычыны адсутнасьці ў сям'і сыноў, абавязакі якіх ён павінен выконваць.

Асаблівай цікавасьцю адрозніваецца наступная справа па прыняццю прыёмыша. Вясковае Осаўскае грамадства (Бабруйскі у.) у 1876 годзе вынесла прысуд з нагоды просьбы свайго аднавяскоўца Ерм. Кухарчыка; апошні прасіў грамадства «въ томъ, что онъ, будучи въ преклонныхъ лѣтахъ не имѣетъ детей и родства, а имѣет хорошее хозяйство и земейный надѣлъ 10,5 десят., желаетъ какъ движимое такъ и неподвижное свое хозяйство отдать въ вѣчное владѣніе крест. дер. Осава Дорофею Щербѣ, котораго онъ Кухарчукъ принялъ къ себѣ какъ родного сына. Приговорили: принявъ въ уваженіе просьбы Ермолая Кухарчика, признаемъ, что дѣйствительно онъ ест въ преклонныхъ лѣтахъ, сам управлять хозяйствомъ не можетъ, дѣтей и родныхъ не имѣетъ, то на основаніи Полож. О выкупѣ ст. 164 изявляетъ согласіе на передачу Дорофею Щербѣ надѣленного земельнаго надѣла съ темъ, что Дорофей, вступивши въ права хозяина, обязанъ уплачивать какъ выкупной платежъ, такъ равно и другія повинности полностью". З пычыны гэтай пастановы Кухарчыкам и Шчэрбаю тады ж была заключана дамова, па якой першы передаў Шчэрбе надзельную ік упленую зямлю, " на вѣчное владѣніе сказанному пріемышу съ темъ, что онъ обязанъ меня и жену мою Феклу уважать, какъ собственныхъ своихъ родителей, повиноваться во всёмъ, за хозяйством смотреть, какъ за своимъ собственнымъ. Повинности какъ за землю, такъ и другіе платежи обязанъ уплачивать аккуратно; апи чемъ предоставляю полное рправо Дорофею, - какъ я хорошо знаю, что у него есть родная мать и живетъ особо, но в бѣдности, когда пожелаетъ отъ сына вспомоществованіе, давать ей, ему прекословить и упрекать не долженъ. После нашей смерти Дорофей имѣетъ полное право съ хозяйством нашимъ и землею поступать по его собственному усмотренію; на случай Дорофей умретъ прежде, чѣмъ я и жена моя, если Дорофей женится и у него будутъ дѣти то мы, обязаны ихъ смотреть какъ своихъ собственныхъ и хозяйство съ землею остается въ пользованіе дѣтей Дорофея. Если Дорофей будет неуважителенъ и неисполнять всего предложенного въ точности, въ такомъ случае я и жена моя имѣем право устранить отъ всего и претензій Дорофей имѣть не долженъ». Мабыць, не без падстаў абодва контрагенты стараліс абставіць пагадненне цэлым шэрагам умоў. У 1892 годзе сямейства Кухарчыка, тады ужо пакойнага, прад'явіла позву да Шчэрбы на зямлю брата, сцвярджаючы, што апошні паступіў "на службу" і завалодаў патым зямлёй. Суд адмовіў ісьціцы.

тую ж зямлю, што араў і ён (закрыць вочы памерламу, асабліва гаспадару, абавязкова павінен старэйшы із мужчын, застаўшыхся ў хаце); а памерці, не аставіўшы асобу, якая б была абавязана "закрыць вочы, пахаваць" (г. зн. без пераемніка), беларус лічыць найвялікшым няшчасьцем.

У адносінах да прыёмыша, усынавіўшы заступае масца бацькі. Прыёмых называе яго бацька, нават тады, калі апошні давадзіцца яму дзядзькай. Для роўных сабе ў сям'і прыёмыш – сем'янін, для малодшых, пры асабістым звароце – дзядзька, у іншых выпадках – таксама сем'янін.

Прыйшоўшы у хату, прыёмыш карыстаецца ўсімі абумоўленнымі ім ці яго родзічамі правамі. Сам усынавіцель не можа змяніць дамову, калі няма някай падставы з боку усыноўленага. Суд строга падтрымлівае правы апошніх.

Так у адной справе мы знаходзім цікавыя дадзеныя па гэтаму пытанню. Дзядзька прагнаў ад сябе прыёмыша – пляменіка; але дзядзька даказваў, што пляменік сам пайшоў да свайго бацькі, прытым пляменік меў сваю зямлю з трох дзесяцін асабістага надзелу, якім карыстаецца яго бацька – адстаўны жаўнер. Пляменік даказвае, што дзядзька сам яго прагнаў, а свае правы на рухомую і нерухомую маёмасць дзядзькі ён выказваў на той аснове, што як да вызвалення з прыгону, так і пасьля *ён жыў разам з дзядзькай* да гэтага году (1887) і карыстаўся усімі правамі *сем'яніна* і на гэтай аснове дамагаецца ад дзядзькі трэццяй часткі усёй маёмасьці. Але суд высвятліў з паказанняў сведак, "что П. Домось (прыёмыш) равноправный въ владѣніи имуществомъ, состоявшимъ до весны сего года въ ихъ общемъ пользованіи" (Пинск). Пляменік мог бы спаслацца проста на тое, што ён быў прыняты за сына, як гэта мы бачым у іншых выпадках. Але тут ён спасылаецца на сваю працу з дзяцінства і на свае правы сем'яніна. Паказанні сведак у падобным напрамку. Пагэтаму можна думаць, што падцверджанне правоў пляменіка на маёмасць усывіўшага яго дзядзькі было двайным: пляменік спачатку быў у дзяцінстве прыняты за сына, ці проста ўзяты без дамовы, як сын пайшоўшага ў жаўнеры і беззямельнага (бацька карыстаўся зямлёй сына, значыць, як жаўнер, узяты да вызвалення, надзел не атрымліваў). Ужо пазьней, калі прыёмыш памужнеў, яго правы былі падцвержаны тым, што ён быў астаўлены дзядзькай сем'янінам на роўных правах. На гэта апошняе ён асабліва і напірае.

Такія дамовы з падросшым ужо прыёмышам вядомы і ў іншых выпадках. Адна справа, напрыклад, расказвае, што пляменік з калыскі жыў з маці пры дзядзьку (па маці). Аля пасьля сьмерці першай дзядзькінай жонкі, другая дзядзькава жонка прагнала прыёмыша (значыць ён, як сірата, быў прыняты без дамовы ў дом дзядзькі "на сумленне", як кажуць беларусы). Але пасьля сьмерці другой жонкі дзядзька зноў запрасіў яго жыць да сябе і сасватаў за яго нявесту, бацькі якой вырашылі выдаць за яго сваю дачку, з той умовай, што дзядзька падцвердзіць права пляменіка на палавіну надзела. Дзядзька падцвердзіў пры сведках. Але калі трэццяя жонка зноў прагнала пляменіка, то на судзе дзядзька заявіў, што ён сам адыходзіць ад пляменіка (г. зн. сам парушае дамову з ім), дае яму зараз 1/3 зямлі, а пасьля сьмерці палавіну.Суд зацвердзіў дамову (Рэчыца). І

ў гэтым выпадку відавочна жаданне прыёмыша падвоіць свае правы правам сем'яніна.

Да гэтага часу мы гаварылі аб прыёмышаш мужчынскай стаці. Радзей, але беларусы прымаюць "на правах дачкі" і асоб жаночай стаці, прычым яна карыстаецца ўсімі правамі і становішчам дочак у сям'і[35].

Такім чынам становішча прыёмыша набліжаецца да становішча сем'яніна-здольніка і прымака і узаемна дапаўняюцца адно другім, і гэта назіраецца не толькі ў прававых адносінах, але і ў асабістых адносінах асоб, уступаючых паміж сабой у пагадненні, як было ўжо адзначана. На самай справе, у становішчы сем'яніна мы назіраем такія ж самыя рысы. Розніца толькі ў тым, што прыёмыш не прыносіць сваёй маёмасьці, а сем'янін і прымак часцяком з'яўляецца ў чужой сям'і са сваёй маёмасьцю, быдлам, прыладамі і т. д. Апошнія таксама прыходзяць у прыняўшую іх сям'ю на аснове дамовы, значнай часткай якой з'яўляецца, зразумела, зямля. Прывядзем яшчэ адно цікавае ўказанне на такія умовы. Так, адна сялянка, пакойны чалавек якой прыняў да сябе сем'яніна, пасварыўшыся з апошнім, хацела прадаць рухомую маёмасць і патрабавала пажыццёвага пракармлення ад яго. Сем'янін заявіў, што "бацька (яго) не згаджаўся (на пераход у сям'ю пакойнага), пакуль ён не перадаў яму пісьмова ўсёй маёмасьці. Суд аставіў за сем'янінам надзел, усе пабудовы і частку быдла, падатчыцы скаргі аставіў другую частку быдла, карыстанне старой хатай, ¼ пасеву жыта гэтага году і на будучы час па 3 пуды штогод (Рэчыца), г. зн. тое самае, што астаецца за маці-удавой пры яе нязгодзе з сынамі.

Падцвярджэнне той жа абавязковасьці правоў прынімаемых членаў сям'і мы знаходзім і ў іншых выпадках: і здольнік, і прымак, і прыёмыш робяцца гаспадарамі ў сям'і пасьля сьмерці прыняўшага іх, клапоцяцца аб састарэлых членах, з'яўляюцца апекунамі малалетніх членаў сям'і і інш. Карацей, яны робяцца паўнапраўнымі членамі сям'і. Дзеянне дамовы з прымаком, прыёмышам і здольнікам мяркуецца пажыццёвым, г. зн. да сьмерці аднаго з бакоў, рэдка абмяжоўваецца якім-небудзь тэрмінам. Пагэтаму, калі разыходзяцца раней, то працуючы на гаспадарку іншага, патрабуе, прынамсі, узнагароду за сваю працу, як найміта і вяртання ўнесенай ім маёмасьці.

————————————————

35) Прывядзем наступны прыклад 9Бабруйскі у.): Сялянка вёскі Старынка, дзеўка, Дар'я Яўсейчык скардзілася на селяніна вёскі Бабры Рамана Курыльчука у наступным: Раман узяў яе да сябе *на правах дачкі*, калі ёй было 7 гадоў. З таго часу яна пражыла ў яго да 20 гадоў, г. зн. да вясны гэтага году, але калі яе сталі прыціскаць, яна была вымушана пакінуць Курыльчыка, узяўшы з сабой толькі некалькі штук палатна. Так як за увесь жыцця ў Курыльчыка яна нічога не атрымлівала, то просіць суд прысудзіць на яе карысць ад Кульчыка 78 рублёў, лічачы за 13 гадоў па 6 рублёў за год. Курыльчык паказаў: што ўзяў яе да сябе на правах дачкі, калі ёй было 7 гадоў і, зразумела, абавязаўся выхаваць і выдаць замуж з дастатковай выправай, але яна сышла да брата…, што ён не згодны плаціць ёй грашамі, так як на тае не было дамовы. Суд вырашыў: утрымаць з Рамана Курыльчыка на карысць Дар'і Яўсейчык 25 руб., пакінуўшы ў яе ж карысць забраную ёй вопратку.

Мы разгледзелі правы асоб, з якіх складаецца сям'я і прыходзячых у яе членаў: прымака, прыёмыша і сем'яніна. Мы не маглі не заўважыць із шматлікіх прыведзеных прыкладаў, што ўсе інтарэсы, як цэлай сямейнай группы, так і асобных яе членаў, усе бакі сялянскага жыцця засяроджваюцца на дзвюх яго галоўных фактарах: на адносінах да зямлі і на працы, патрэбнай для яе. Толькі з мэтай уладкаваць сябе больш менш нядрэнна ў адносінах да зямлі злучаюцца ў адну сямейную абшчыну дзве сям'і, із якіх у адной ёсць свабодная працоўная сіла, а у другой зямля, да якой яе можна прыкласьці; толькі дзеля зямлі прымак пакідае бацькоўскую хату і пераходзіць у хату цесьця, каб перанёсшы некалькі гадоў цяжкай працы, зрабіцца потым самастойным гаспадаром, уладальнікам шматка зямлі; з той жа мэтай прыходзіць прыёмыш у сям'ю усынавіцеля. Сям'я і прыёмыша і прымака пазбаўляецца працы аднаго са сваіх працаўнікоў, у надзеі атрымаць яго зямлю і такім чынам узнагародзіць сябе за працу пакінуўшага, які быў накіраваны на здабыванне сямейнай маёмасьці. Бацькі шукаюць у нявестцы добрую працаўніцу, каб скарыстацца яе працай. Усе пагадненні адносяцца да зямлі; сваркі і непалады, прымушаючыя парушаць іх, разладжваючыя вялікую сям'ю і абшчыну, адбываюцца ад неумельства падзяляць працу, прыкладаемую да зямлі, ад таго, што адзін працуе больш, другі менш, ад таго, што адзін дакарае другога ў дрэнным прымяненні сваёй працы. Такія прыклады мы яшчэ пабачым, калі будзем гаварыць аб падзелах. Але і з гэтага ўжо відаць, што зямля і праца складаюць сутнасьць народных інтарэсаў, а пагэтаму звернемся да бліжэйшага вывучэння прынцыповых поглядаў народа ў адносінах аднаго і другога.

Зямля самая галоўная рэч для беларуса. Ва ўсіх яго шматлікіх абрадах, песнях, казках, адрозніваючыхся старажытнасьцю поглядаў, праглядаецца глыбокае пачуццё пашаны да зямлі. Гэта вельмі зразумела, таму што зямля шмат стагодзяў карміла яго і корміць цяпер. З уяўленнямі аб зямлі цесна звязаны ўяўленні аб родзе, у сэнсе прамога прадаўжэння нашчадкаў. Мы бачылі, як даражыць беларус тым, што мае нашчадка, які б сеў на яго месца, апрацоўваў бы і шанаваў тую самую зямлю, на якой пралівалі пот яго продкі: калі ён не мае сына, ён стараецца зараней знайсьці прыёмыша, зяця-прымака, каб ён прадоўжыў яго род. Праўда адносіны да зямлі пачынаюць змяняцца ў маладога пакалення: нязначнасць, дробнасць надзелаў, беднасць глебы, разуменне, што яго род, нашчадкі, павінны будзуць разысьціся, таму што ўнукам не будзе чаго есьці – усё гэта моцна змяняе адносіны селяніна да зямлі, застаўляючы яго ўсё большую ўвагу звяртаць на пабочны заробак, выпраўляць свабодныя рукі шукаць шчасьця ў горадзе і інш.

Але ўсё ж такі старажытныя асновы народнага светапогляду яшчэ моцныя. З прычыны паказаных адносін да зямлі, мы заўважаем, перш за ўсё, пастаяннае імкненне да таго, каб яна не пакідала род, разумеючы гэта слова то ў больш вузкім значэнні, то ў больш шырокім, у значэнні наогул ўсёй радні. Так мы сустракаемся з такім, напрыклад, рашэннем: адзін селянін, бяздзетны, перадаў другому свой надзел: але пасьля сьмерці апошняга яго жонка перадала надзел у часовае карыстанне іншаму. Тады ўдава першага запатрабавала зямлю назад; суд вярнуў ёй зямлю на той падставе, што яе чалавек быў родзічам пакойнага

ўладальніка зямлі (Рэчыца). Гэта імкненне ўтрымаць зямлю сярод родзічаў, паказвае на тое, што сама зямля ва ўяўленні беларуса належыць не асабіста самому ўладальніку, а яму пастолькі, паколькі ён з'яўляецца прадстаўніком роду і гаспадар з'яўляецца толькі яе распарадчыкам. Усякае яго пагадненне на зямлю не ўлічваючае інтарэсаў законных нашчадкаў, лічыцца незаконным. Мы маем шматлікія падцверджанні сказаннага. У адным выпадку селянін перадаў свой надзел іншаму пры сведках "на вечныя часы". Але праз дзесяць гадоў, калі падраслі яго нашчадкі, яны вырашылі забраць зямлю. Не гледзячы на паказанні сведак аб тым, што пагадненне было заключана на вечныя часы, суд зыходзячы з таго "так як у Мацака (ўладальнік зямлі) ёсць законныя нашчадкі, то ён не меў права прадаваць сваю зямлю на вечныя часы", - і вярнуў зямлю яму (Рэчыца).

Падобнае мы сустраваем і ў іншых рашэннях, пры гэтым, нават пісьмовыя абавязацельствы не мелі для суду значэння (Рэчыцкі, Пінскі, Бабруйскі і іншыя ўезды). Усюды праводзіцца адзін і той жа прынцып: зямля не павінна пакідаць кола родзічаў, калі няма прамых нашчадкаў, ці калі пабочныя людзі не былі зараней зроблены членамі сям'і ўладальніка (здольнікі). Не пісьмовы акт мае значэнне для суду, а радство ці правы здольніка, працаваўшага разам з уладальнікам на зямлі. Працу затрачаную на апрацоўку зямлі селянін цэніць вельмі высока.

На самай справе, мы знаходзім шматлікія падцверджанні таго, што правы на зямлю асьвячаюцца і падтрымліваюцца працай на ёй. Недастаткова мець права на зямлю па нараджэнню – неабходна каб гэта права падтрымлівалася працай. Мы бачым, што і прымак, і прыёмыш, пайшоўшыя са сваёй сям'і, пазбаўляюцца ў ёй права на сваю долю, але затое яны набываюць права ў новай сям'і і гэтае права абумоўліваецца зноў жа працай.

У кожным рашэнні па гэтаму пытанню мы бачым упартае імкненне выявіць, ці сапраўды прымак, сем'янін працаваў у новай сям'і. Калі ён не працаваў да сьмерці гаспадара (а гэта звычайна абазначаемы ці мяркуемы тэрмін) то суд прызнае толькі яго права на узнагароду за працу. Гэтым прынцыповым поглядам на адносіны працы да зямлі тлумачыцца і тое, што член сям'і, чаму-небудзь доўга не жыўшы ў сям'і, ці зусім не жыўшы ў ёй, не гледзячы на свае правы па нараджэнню, пазбаўляецца ўсіх, ці часткі сваіх правоў на зямлю. Гэта асабліва датычылась погляду сялян на правы адстаўных жаўнераў на агульны надзел.

У літаратуры часьцяком чуваць галасы, што заўважаемае сярод сялян жаданне адхіліць жаўнераў ад карыстання зямлёй зыходзіць з не зусім добрых намераў іхных бацькоў і братоў. Але такія нападкі не зусім правільныя. Паказаныя адносіны сялян да жаўнераў тлумачацца іхным поглядамі на працу. У апошні час жаўнеры, ідучыя на службу із сям'і ўсяго толькі на 3-5 гадоў і потым вяртаючыяся, не губляюць сваіх правоў на зямлю, так як час іх адсутнасьці не вельмі значны: ім не даюць толькі рухомай маёмасьці, якая была набыта пад час іх адсутнасьці. Але калі жаўнеры служылі па 15-20 гадоў і вярталіся ў сям'ю ўжо адвыкшымі і мала здольнымі да сялянскай працы, то звычайнае права адмаўляла ім у правах на зямлю. У нашых крыніцах мы знаходзім такі погляд

усюды строга праведзеным і ўсюды паказвалася на тое, што жаўнер не жыў разам і не працаваў разам.

Але калі жаўнер вяртаўся дадому і паспяваў пачаць зноў разам працаваць, то правы яго на зямлю заставаліся, ва ўсякім разе на меншую, чым магло б быць частку зямлі.

У гэтых адносінах мы маем цікавы дакумент. Жаўнер быў прызваны ў 55 годзе і звольнены ў 57 годзе, потым зноў прызваны у 63 годзе і звольнены ў 65 годзе. Ён паспеў пражыць у сям'і брата пасьля гэтага 6 гадоў, але быў выселены апошнім і жыў у іншым месцы. У 1880 годзе он пачаў судовую спрэчку са сваім братам аб зямлі, якая працягвалася да 1889 года. Суд прысудзіў яму крыстацца 1/3 часткай зямлі, але сялянская прысутнасць чатыры разы адмяняла рашэнне суду, паясьняючы, што жаўнерам аддадзеным да 10 рэвізіі, зямля не выдзяляецца. Суд яшчэ раз разгледзеў справу, знайшоў, што жаўнер да паступлення на службу, у прамежках паміж ёй і пасьля яе 6 гадоў працаваў у сям'і і сышоў не добраахвотна і зноў прысудзіў яму 1/3 частку надзелу, "на аснове мясцовых звычаяў, заведзеных у сялянскім побыце" (Пінск). Поўнасьцю аналагічныя і іншыя рашэнні. Того ж прынцыпу, напрыклад, прытлімваюцца ў наступнай справе, хоць гаворка ўжо ідзе не аб жаўнеры: адзін брат пайшоў ад другога ў выніку прыгнёту з боку апошняга, але так як яны працавалі разам да 1863 года, то суд прызнаў іх раўнапраўнымі ўладальнікамі.

Такім чынам, член сям'і, парваўшы сямейную працоўную традыцыю ў адносінах да зямлі, губляе правы на яе. Але з іншага боку праца асвячае, па разуменню звычайнага права, правы на зямлю. Недастаткова быць фармальна прынятым у сям'ю – трэба яшчэ папрацаваць на яе. Звычайнае права адносіцца з глыбокай пашанай да шматгадовай працы на зямлі: часьцяком прызнае права на валоданне зямлёй нават для чужой асобы, калі яна доўга працавала на зямлі і, такім чынам, атрымала права валодання ёю. Так, у адным выпадку, удава перадала без усякіх фармальнасьцей надзел свайго чалавека. Праз 19 гадоў сын удавы падрос і забраў зямлю ў часовага ўладальніка. Але суд, прымаючы да ўвагі, працу гэтага апошняга і тое, што ён увесь час плаціў падаткі, дазволіў яму сумесна з законным нашчадкам карыстацца зямлёй у палавінным памеры (Рэчыца). Але іншы прыклад, у тым жа накірунку, яшчэ больш цікавы: суд вырашыў, што так як часовы ўладальнік (узяў зямлю сам, так як яе законны уладальнік не працаваў на ёй) валодаў надзелам з дня пераходу сялян на выкуп і так як ён "будучы шматсямейным і сляпым, пры тым своечасова выплочваў усе падаткі" (г. зн. быў добрым гаспадаром), - то яму і была аддадзена палавіна зямлі (ib).

Спасылку на даўнасць валодання у абодвух выпадках мець на ўвазе нельга, так як разуменне аб даўнасьці ў адносінах да зямлі, пры існуючым прамым, законным нашчадку, не мае значэння ў народным праве. Тут прынцып адзін – права затрачанай працы.

Паказваючы на значэнне працы ў арганізацыі беларускай сям'і, нельга не зрабіць некаторыя абмоўкі, прадбачачы моцныя пярэчанні на такое разуменне народнага жыцця. Прынцып працоўнага пачатку быў удала падмечаны

спадарыняй Яфіменка і распрацаваны ёю ў шэрагу таленавітых і з вялікім пачуццём напісаных артыкулаў[36].

Яе артыкулы, знайшлі ў свій час, моцнае спачуванне ў журналістыцы[37] і ў навуцы: гэту тэорыю падтрымліваў Аршанскі[38] і у практычным плане да вывучэння народнага жыцця выкарыстоўваў і спадар Мацвееў[39] і інш. Але гэтая тэорыя знайшла не менш моцных праціўнікаў, у вобразе прафесара Пахманава[40], прафесара М. Кавалеўскага[41], спадароў Кулішара[42] і Мухіна[43] і шмат іншых.

Тэорыя спад. Яфіменка не была зроблена ў адным цэлым дасьледванні і ў ёй знайдзена далёка не мала недахопаў. Праф. Пахман вельмі пераканаўча даказваў, што сям'я - не арцель (на чым, дарэчы, сама спад. Яфіменка не настойвае; выразы ў гэтай крайняй форме можна знайсьці ў Аршанскага), прычым ён, безумоўна, меў на ўвазе асноўны тып рымскай сям'і[44]. Праф. Кавалеўскі і с. Кулішар разглядалі тую ж тэорыю з этналагічнага боку, хаця не зразумела, чаму гэта апошняя тэорыя не можа мірыцца з сучасным ладам сялянскай сям'і і чаму наша сям'я павінна заставацца акамянелай астачай старажытнага радавога ладу[45], ці чаму паняцце аб працы ў сучаснай арганізацыі сям'і павінна падтрымлівацца забабонным уяўленнем першабытнага чалавека аб барацьбе з сіламі прыроды, як гэта хоча с. Кулішар. У народным жыцці, праве, абрадах, павер'ях мы, праўда, сустракаем самыя разнастайныя перажыванні першабытнага грамадскага ладу, але гэтыя перажыванні з'яўляюцца безсвядомымі астаткамі першабытных форм, сімваламі, некамі меўшымі жыццёвае значэнне, але наступны ход народнага жыцця вылучае новыя прынцыпы, рэгулюючыя народнае жыцце ў дадзены час.

Тут не месца, выдома, паглыбляцца ні ў разгляд самой тэорыі, ні пярэчанняў, выстаўленых супраць яе. Звяртаючы яшчэ раз увагу на прыведзеныя факты, мы мяркуем, што яны гавораць самі за сябе, ва ўсякім разе, у коле нашых крыніц, падмацаваных толькі асабістым перакананнем назіральніка. Вядома, праца, як рэгулятар, мае найбольшае значэнне ў сямейнай абшчыне, у вялікай сям'і, але ён менш значны ў малой сям'і, лад якой пераходзіць больш на асабістыя адносіны, прыхільнасьці, пачуцці бацькоў да дзяцей. Асабліва штучна склаўшаяся сямейная абшчына трымаецца толькі агульнасцю мэты працы яе членаў і ў выпадку неумення прыкласьці гэту працу да агульнай выгады, такая абшчына распадаецца. Па тых жа самых прычынах распадаецца не толькі

36) Яе артыкулы сабраны у "Изслѣдованія народной жизни". М. 1884 г.

37) Гл. Напр. арт. У "Русское Богатство", 1884 г., т. III, стр. 260-272

38) "Народны суд і народнае права", стр. 380, 381 і інш.

39) Напрыклад яго "Оч. Юрідіч. Быта Самар. Губ.", "Зап."Геогр. Обў. По отд. Этн., т VIII, стр. 22. Пар. Іванюкова "Общинное землевлад.» стр. 5 (отт. Изъ «Р. Мысли»).

40) Звычайнае права т II стр. 8 і наст. Пар. Стр. 26 і наст.

41) Першабытнае права вып. 1, стр. 32 і наст.

42) Нарысы параўнальнай этнаграфіі і культуры, СПБ. 1887 г., стр. 13 і наст.

43) Наследаванне сялян па звычайнаму праву.

44) Што правільна заўважана спад. Яфіменка. Глядзіце яе прадмову да указанага збору яе артыкулаў.

45) Якою хоча прадставіць вялікарускую сям'ю праф Кавалеўскі ў названым артыкуле ў "N. Revue historique du droit": "Etudes sur le droit coutumier russe".

абшчына, але і вялікая сям’я і нават малая: сын думае, што бацька дрэнны працаўнік, што ён не ўмее добра кіраваць, а сам не можа рабіць, а між іншым яму і яго сям’і прыходзіцца пераносіць недахопы, - і сын адважваецца патрабаваць падзел. Пагаварыце добра з селянінам і вы пераканаецесь, хто такія меркаванні вызываюць тры чацьвёртых усіх падзелаў. Асноўная прычына падзелаў ляжыць, бязспрэчна, глыбей, ва ўпадку агульнага эканамічнага стану, у малазямеллі і інш., але селянін абвінавачвае тое, што да яго бліжэй, што ён бачыць.

## III

У заключэнні неабходна разгледзець пытанне аб падзелах, атрыманні спадчыны і апекаванні. Гэтыя бакі звычайнага права настолькі важныя, што маглі б зрабіцца прадметам асобнай працы. Мы, дарэчы, спынімся на іх толькі настолькі, наколькі гэта неабходна для паўнаты агляду звычайнага права сям’і.

Няма патрэбы аб прычынах падзелаў. На Берарусі гэтыя прычыны тыя ж самыя, што і па ўсёй астатняй Расіі і яны вельмі добра вядомы. Збядненне сям’і, малазямелле, недароды, часцяком быўшыя за апошні час, цяжкасьці ў знаходжанні заробкаў, і між іншым значныя падаткі, абцяжарваючыя гаспадарчы бюджэт селяніна, вось агульныя прычыны, прыводзячыя да падзелаў. Вынікі падзелаў вядомы не менш добра. Старэйшыя члены сям’і, аддзяліўшыяся з ужо дарослымі сынамі яшчэ неяк перабіваюцца; але малодшыя, абцяжараныя падлеткамі, падаюць, абязсіліўшысь ад працы, на прыканцы кідаюцца на староннія заробкі, сплавы і ўся гаспадарка прыходзіць у заняпад. Знешнія прычыны, выклікаючыя, па тлумачэнню сялян, падзелы, зводзяцца да сварак паміж членамі сямейства. Івану здаецца, што Сцяпан лянівы, што ён мог бы за адзін дзень скасіць пакос ды зацягнуў на другі, а тут пайшлі дажджы і сена прапала; а Сцяпану, ў сваю чаргу, здаецца, што па віне Івана пала кабыла цэлы год карміўшаяся саломай з крышы і г. д. Кожнаму здаецца, што калі б ён касіў сам, не спадзяючысь на брата, то дождж не згнаіў бы сена, ды і кабыла, хоць без сена, але жыла б і г. д. Браты яшчэ так сяк ужываюцца, малодшы саступае старэйшаму і абодва разумеюць цяжкае становішча гаспадара-адзіночкі. Але жанчыны ўжываюцца з вялікай цяжкасьцю. Яны сварацца адна з адной праз дзяцей, працу і інш. і калі сам гаспадар не мае дастатковага аўтарытэту, не цыкне своечасова, то гэтыя сваркі прыводзяць да падзелу: жонкі карыстаюцца ўсякім выпадкам, каб абудзіць варожыя адносіны паміж мужыкамі. У рашэннях суду мы ўвесь час сустракаем указанні на тое, што прычына падзелу – жаночыя сваркі, суд, калі-нікалі, карае вінаватых, але гэта мала дапамагае і толькі адтэрміноўвае падзел.

Што да адносін сялян да падзелаў, то, увогуле, спачуванне сялян не на баку падзелаў, не выключаючы і тых, хто падзяліўся самастойна. Яны вельмі добра ведаюць усе негатыўныя бакі падзелу, але жыццё робіць сваё і падзелы павялічваюцца.

У пабытовым плане цікава прывесьці некалькі ўказанняў на прычыны падзелу. Пры адмоўным стаўленні да падзелу, суд, ідучы за грамадскім стаўленнем, у кожным такім выпадку стараецца выявіць тыя прычыны, якія робяць немагчымым далейшае сумеснае існаванне сям'і. На судзе, напрыклад, канстатавана, што адзін із братоў "адвык ад працы", цягаючысь на службе па чужых дварах, зразумела, што сям'і мала карысьці ад такога члена і суд дае братам падзел (Бабруйск). Ці, урэшце, члены сям'і не выконваюць усіх умоў агульнага жыцця і прымусіць іх выконваць гэтыя ўмовы немагчыма, напрыклад, "пачалі самі сабе зарабляць грошы і выкарыстоўваць іх на сябе" (ib), ці жонка аднаго з братоў "задзірыстая жанчына і на спакой у сям'і няма надзеі" і г. д. і пастанаўляе падзел. Затое, з другога боку, суд не дазваляе падзел, калі ёсць надзея, што сямейныя адносіны наладзяцца. У адной цікавай справе паміж роднымі братамі прыводзіцца змест трох папярэдніх рашэнняў суду: усімі імі забаранялась братам дзяліцца, але падзел фактычна адбыўся апроч суду, як бачна са справы, па немагчымасьці братам ужыцца (Бабруйск). У іншых выпадках, часам, прыводзяцца і аргументы, чаму падзел забараняецца: "сем'і малыя, каб жыць асобна", гаворыць адна справа, матывіруючы адказ. Але ў суда ёсць яшчэ адзін важкі аргумент для адмовы ў падзеле: не жаданне падзелу старэйшага ў сям'і (бацькі, брата, прымака і інш., наогул гаспадара) служыць самай галоўнай падставай для адмовы: суд, у такіх выпадках, не толькі адмаўляе зачыншчыкам падзелу, але і карае іх за непаслушэнства "старэйшаму у хаце". Такія факты настолькі шматлікія, што няма патрэбы прыводзіць асобныя прыклады; трэба толькі адзначыць, што ў паўднёвай паласе Мінскай губерніі і выпадкаў адмовы сутракаецца больш і толькі што прыведзеная матывіроўка сустракаецца часьцей. Толькі высвятленне поўнай немагчымасьці існавання непадзельнай сям'і, ці выяўленне дрэнных учынкаў гаспадара ў адносінах да малодшых членаў сям'і, можа схіліць суд да незвяртання ўвагі на пратэты гаспадара сям'і.

Імкнучыся папярэджваць падзелы, суд, часам, ужывае сярэднія меры ў практычнасьць якіх можна ўзяць пад сумненне: ён пастаўляе падзяліць рухомую маёмасць, жыць у асобных хатах, але зямлёю валодаць разам (Пінск). У адным выпадку суд запатрабаваў такога агульнага валодання зямлёй ад братоў, раней падзяліўшыхся (Бабруйск). Мала таго, суд гатовы караць таго із братоў, які адзяліўся самавольна, без згоды астатніх: у такіх выпадках ён, часам, прысуджае пакаранне, а часам, падцвярджаючы падзел, адбірае ў вінаватага некаторую частку яго сямейнай маёмасьці, ва ўсякім разе рухомай (Пінск).

Такі погляд сулду на падзелы і наўрад ці трэба доказваць, што ён адлюстроўвае ў сабе ўяўленні большай часткі, найбольш кансерватыўнай, сялянскага грамадства: судовая практыка цалкам супадае з уражаннем назіральніка[46].

---

46) Да нашых асабістых назіранняў дададзім яшчэ адзін водгук пастаяннага жыхара беларускай вёскі: "Народ лічыць падзелы разбуральнікамі гаспадарак; у асаблівасьці імі не задаволены сталыя людзі; маладыя ж мірацца з падзеламі, як з непазбежным злом таму менавіта, што ніяк не могуць утрымаць сваіх жонак ад сварак з іншымі членамі сям'і" і інш. (П. П. Дземідовіч).

Бацькі не заўсёды маюць надзею, што пасьля іх сьмерці дзеці доўга пражывуць разам. Вось чаму некаторыя зараней падрыхтоўваюць усё неабходнае для падзелу: будуюць агульнымі намаганнямі ўсёй сям’і хаты і іншыя гаспадарчыя пабудовы для кожнага сына і інш. Здараюцца падзелы і пры жыцці бацькі; часам нават бацька прапануе сынам мірна падзяліцца і робіць гэта сам, застаючысь ці пры адным з сыноў (звычайна малодшым), ці, калі яшчэ можа працаваць, астаўляючы сабе частку роўную з сынамі; бацька не можа надзяліць сваіх сыноў па свайму меркаванню: у выпадку найменшага адступлення суд выраўнівае правы бацькі з сынамі і прымушае даць ім роўныя часткі[47]. Калі бацька мае малодшых сыноў і выдзяляе старэйшага сына, то абавязаны даць яму роўную частку, але пры перадзеле зямлі, калі падрастуць малалетнія, сын абавязаны вярнуць сваю зямлю і падзяліцца з братамі пароўну (Пінск). Бацька, пакідаючы занятак гаспадаркай, можа ўтрымаць для сябе частку зямлі Звычайна сёмую) і перадаць яе да сваёй сьмерці таму сыну з якім ён жыве; пра такую зямлю мы ужо гаварылі.

Пасьля падзелу, кожны з падзеленых мае права распараджацца сваім участкам, як яму будзе пажадана. Адзін селянін, ужо падзяліўшыся з братам, пажадаў узяць прымака да сваёй дачкі і перадаць яму зямлю, так як сыноў у яго не было. Але яго брат не пагадзіўся. Справа была вынесена на суд і ён вырашыў, што кожны із братоў можа па свайму меркаванню перадаваць зямлю пасьля падзелу (Пінск).

Вышэй ішла гаворка аб падзеле маёмасьці пры жыцці бацькі. Але калі бацька памірае, не падзяліўшы сыноў, то іхны падзел вызначаецца ці завяшчаннем ці звычаем, хаця завяшчанне наўрад ці калі-нібудзь супярэчыць звычаю.

Толькі ў апошнія гады беларусы ўсё часьцей звяртаюцца да пісьмовых завяшчанняў. Звычайна ж усё, што бацька завяшчае сваім сынам – гэта жыць мірна, не сварыцца, жыць разам, без баек, не праклінаючы імя бацькі. Такія павучанні бацькі да дзяцей вельмі звычайныя: яны лічацца як бы свяшчэнным абавязкам беларуса, яныж разам з перадсмяротным благаславеннем лічацца самым дарагім запаветам для сыноў. Беларус памірае вельмі спакойна і прама глядзіць сьмерці ў вочы. На смяротным ложы ён з дробнымі падрабязнасьцямі расказвае сынам, як яны павінны жыць і як і чым дзяліцца, толькі зрабіў такі наказ і благаславіўшы дзяцей, ён лічыць свой жыццёвы абавязак выкананым.

47) Прывядзем наступную вытрымку із аднаго судовага рашэння Пінскага уезда: Міхал Сліж прасіў разгледзець справу “о завладѣніи его частью земли и сѣнокоса отцомъ его Василіемъ и братомъ Еремѣемъ, за которую онъ уплачиваетъ ежегодно, а также гумна и хлѣба, засѣянного ими на его части земли рожью, не даютъ”. А пагэтаму просіць аб вышэй выкладзеным забеспячэнні. У ходзе следства быў апытаны бацька Міхала, Васіль, які паказаў, што ён трэцюю частку зямлі аддаў сыну Міхалу, якою ён зараз карыстаецца, із пабудоў належачую яму частку ён атрымаў, а гумны яму не належаць. Што да засеянага хлеба, то такога ён не даваў і даваць не збіраецца. Суд вырашыў: «крестьянинъ Василій Слижъ обязанъ дать сыну своему Михалу въ добавокъ къ имѣющимся у него строеніямъ, еще двѣ стѣнки гумна, а также изъ засѣва ржи 30 сноповъ, кромѣ сего предоставляется право рядовому Михаилу Слижу совмѣстно съ отцомъ и братомъ пользоваться доходами съ 1/3 части земли и сѣнокоса”.

Перадсмяротны наказ замяняецца ці дапаўняецца пісьмовым актам, калі гаспадар прадбачыць раздоры ў сям'і пры падзеле. Пераканаsuccessorи ходам навакольнага жыцця, стары вырашае завяшчаннем наперад падзяліць маёмасць паміж сынамі[48]. Калі падзелы паміж роднымі братамі далёка не заўсёды адбываюцца гладка, то тым больш цяжка абараніць свае правы прымаку, здольніку, прыёмышу. Не дзіўна пагэтаму, што завяшчанні на карысць апошніх сустракаюцца значна часьцей, чым завяшчанні на карысць родных сыноў. Так дзядзька робіць вуснае завяшчанне пры сьведках аб падзеле зямлі паміж пляменікам, якому вызначае 1/3 яе частку і прымаком, атрымліваючым астатнія 2/3 (Пінск). Лёгка можна ўявіць, што падзел паміж пляменікам і прымаком мог бы прывесьці да цэлага шэрагу спрэчак[49]. Вельмі зразумела таксама жаданне прымака, або здольніка, правы якіх на зямлю заснаваны на звычаі, зацьвердзіць зямлю за сваімі нашчадкамі. Так, напрыклад, отчым-прымак, валодаючы ў якасьці гаспадара-прымака зямлёю пасынка, робіць пісьмовае завяшчанне на карысць і пасынка і сваіх дзяцей (Пінск) і г. д. Завяшчанне маці нам сустрэлась толькі адзін раз, але і яно перадавала волю яе пакойнага чалавека, выказанную ім пры сваім духоўным бацьку. Пры адсутнасьці завяшчання падзел адбываецца згодна звычаю.

Пры жыцці бацькі падзел адбываецца вельмі проста: невядомы нават выпадкі запрашэння староннніх асоб для здзяйснення падзелу. Браты, калі падзел адбываецца ў згодзе, часам абыходзяцца без староннніх асоб. Але ў спрэчных выпадках прысутнасць апошніх абавязковая. Часам падзяляючыяся запрашаюць толькі блізкіх людзей, сваякоў, але бываюць выпадкі падзелу і пры сабранні 20 чалавек (Пінск), з удзелам вясковага старасты, ці, нават, усяго вясковага

---

48) Прыклад із Бабруйскага уезду: «Я, Колосенко, будучи въ настоящее время уже въ дряхлости и старости, но при здравом умѣ, имѣя двухъ сыновей Мартина и Сафона, оба семейные, пожелалъ распредѣлить при моей принадлежащее мнѣ имущество во избежаніетмогущихъ возникнуть послѣ моей смерти между моими сыновьями споровъ и тяжбъ. Принадлежащія мнѣ постройки я распредѣляю такъ: Мартинъ долженъ получить въ свое пользованіе одинъ новыйъ домъ съ сѣн…… два скотскихъ сарая, одинъ сарай для овечекъ и одинъ сарай для свинней……., одну клѣть и одну пуню; всѣ означенныя постройки въ настоящее время находятся уже въ управленіи Мартина. А другому сыну Сафону я отдаю…… домъ съ сѣнями, 2 сарая, варивню, клѣть и гумно съ овиномъ; также и ……. Находятся въ пользовании Сафона. Все остальное принадлежащее …. Имущество должно находиться въ пользованіи такъ, какъ оно находится …… время, и ни одинъ изъ моихъ сыновей не имѣетъ права простирать ….. имущество къ другому".

49) Прывядзем яшчэ адно рашэнне Гарб. в.: «Я, Андрей Шереметъ, будучи въ настоящее время уже въ престарѣлыхъ, но при здравомъ умѣ, имѣя двухъ дочерей, старшая Александра и младшая Ирина, изъ которыхъ къ Александрѣ въ настоящее время принимаю въ мужья Ивана Севруна, пожелалъ заблаговременно распрѣделить между ними принадлежащее мнѣ имущество во избѣжаніе могущеаго возникнуть послѣ моей смерти спора о таковомъ. Принадлежащее мнѣ движимое имущество и строенія я распредѣляю такъ: старшей своей Александрѣ я завѣщаю жилой домъ съ сѣнями, 1 новый сарай, одного молодого мерина масти рыжей и двое старыъ свиней, а младшей Иринѣ варивню, гумно, одного старого мерина и 2 свиней. Прописаннымъ выше имуществомъ дочери мои Александра и Ирина могутъ воспользоваться лишь послѣ моей смерти, но если младшая дочь ….. еще при моей жизни или послѣ моей смерти выйдетъ замуж въ другое ….. т. е. не приметъ мужа къ себѣ на мое хозяйство, то она имѣетъ право ….. въ видѣ приданаго описанный ей скотъ, а завѣщанныя ей стро…. оставаться на мѣстѣ и перейдутъ въ собственность старшей дочери …. въ собственность которой по выходѣ Ирины въ замужество въ другое ….. и все положительно принадлежащее мнѣ имущество, кромѣ …. приданаго.

грамадства: большасць падзелаў адбываецца ў прысутнасьці незацікаўленых асоб, але часам іміж састаўляецца пісьмовы акт[50].

Няма патрэбы падцвярджаць асобнымі прыкладамі права асобных членаў сям'і пры падзеле на агульную маёмасць. Адзінакроўныя браты атрымліваюць роўныя долі бацькоўскай маёмасьці. Калі дзеліцца пляменік з дзядзькамі, то ён атрымлівае частку, якая павінна была б перйсці да яго бацькі. Бацькава хата пераходзіць да малодшага брата з той умовай, што ён дапамагае пабудавацца старэйшым; калі бацькоўская хата ўжо старая і дрэнная, то малодшаму брату дабаўляецца нешта з пабудоў. Надворныя пабудовы дзеляцца пароўну па сьценах. Калі адзін із братоў не ўдзельнічаў у пабудове того ці іншага будынку (будучы, напрыклад, жаўнерам, ці на заробках у сваю карысць), то ён не атрымлівае з яе адпаведную частку. Тое ж самае адносіцца да выпадкаў, калі адзін з братоў не жыў у сям'і пад час пакупкі быдла, сеяння збожжа і інш. Трэба мець на ўвазе, што калі аднакроўныя браты ў маленстве не жывуць на зямлі бацькі, напрыклад, ідуць з маці да атчыма, то яны не губляюць сваіх правоў на зямлю. З іншага боку, неабходна памятаць, што пры падзеле прынімаецца ў разлік і тое, ці ўсе браты аднолькава працавалі на агульнай зямлі. Калі адзін з іх не працаваў у сям'і па асабістаму жаданню, пайшоўшы, напрыклад, у прымы, ці прыёмышы, то ён зямлі не атрымлівае.

Усякія абавязацельствы, прынятыя на сябе гаспадаром (бацька, айчым, старэйшы брат і інш.) лажацца на тых, хто атрымлівае спадчыну[51].

---

50) Бабруйскі у.:1892 года, кастрычніка 13 дня. Мы, ніжэйпадпісаўшыяся сяляне Бабруйскага уезду, Гарбацэвічскай воласьці, Сычкоўскага грамадства, вёскі Сычкоўка Ануфрый Фёдараў Грынок, вёскі Мірошына Міхал Цімафеў Сафон і засьценка Чырвонага Ігнат Бабок, будучы запрошанымі па дабравольнаму жаданню селянамі нашага грамадства, вёскі Сычкоўка роднымі братамі Клімам, Цімафеем і Савелам Паўлавымі Зубовічамі для падзелу паміж імі спрэчнай рухомай і нерухомай маёмасьці і вырашэння справы па нашаму перакананню. Агледзеўшы іх пабудовы мы вырашалі: 1-му Кліму павінна застацца із пабудоў: жылая хата з сенцамі, у якой ён жыве, хлеў для быдла і паловіну пуні, а гумно напалову са стрыечным братам Платонам Зубовічам. 2-му, Цімафею, павінна застацца: двор, жыллёвая істопка, клець, плавіна хлява для быдла і палавіна запаснага гумна і 3-му, Савелу, павінна застацца пяціаршынны хлеў цэлы і палавіна васьміаршыннага, а жылую хату ён пабудаваў новую. Маючаяся ў іх зямля ў колькасьці 10,5 дзесяцін павінна застацца ў агульным карыстанні Кліма і Цімафея Зубовічаў, за якую яны павінны агульнымі намаганнямі выплочваць грашовыя і адбываць натуральныя павіннасьці, а брату іх Савелу яны павінны адвясьці безкаштоўна участак зямлі, дз ён пабудаваў сабе хату і даць яму ж за належачы плацёж сенакоса сярэднюю лучку ў урочышчы Галах; і так як Цімафей і Савел адышлі ад Кліма па асабістаму жаданню, то Цімафей і павінен даць Савелу із сваёй часткі кусок раллі ва ўрочышчы пад Васілевічамі, дзе ўжо ён ні да Кліма, ні да Савела нічога мець не павінен.

51) Селянін вёскі Баяры Панкрат Курыльчык скардзіўся на селян вёскі Восава Давыда, Фёдара і Андрэя Бебчыкаў, што яны не аддалі яму 10 руб., пазычаных у яго іхным пакойным бацькай і, акрамя таго, Давыд Бебчык, як старэйшы у сям'і пасьля бацькі, узяў я яго воз сена і пару колаў, за што яму таксама не плоціць. Просіць утрымаць з адказчыкау 16 р. Адказчыкі паказалі: Давыд Бебчык, што сапраўды бацькоўскі доўг складае 10 руб. і, акрамя таго, калі яны, браты, жылі яшчэ разам, ён браў у Курыльчыка воз сена і 2 колы для агульнай іх гаспадаркі, за што яшчэ не заплаціў. Андрэй і Фёдар Бебчыкі паказалі, што Курыльчык жадае, каб з іх спагнаць 16 руб. на карысць свайго зяця, а іх брата Дывыда, чаму ён і прызнае гэты доўг, але, па сутнасьці, ён ужо сплочаны. Валасны суд пасля слухання бакоў прапануе скончыць справу мірам, але праз тое, што так не адбылась, вырашыў: утрымаць з Давыда, Андрэя і Фёдара Бебчыкаў на карысць Панкрата Курыльчыка ўсяго 13 руб. (Гарбацэвічская воласць).

Па вызначаннасьці прававых норм з правамі братоў патрэбна параўнаць правы здольніка, прымака і прыёмыша. Іх удзел у агульнасямейнай маёмасьці трымаецца на звычаі ці пісьмовай дамове, якая прыходзіць у апошні час у падтрымку звычаю. Грамадская думка ў дачыненні да такіх асоб, шукае доказы ў адным напрамку: ці была яна ў сям'і сем'янінам ці простым наймітам. У першым выпадку яна атрымлівае частку зямлі ці вызначаную дамовай, ці роўную з астатнімі сунашчадкамі. Вышэй было дастаткова гаворана аб правах прыёмных членаў сям'і на агульную маёмасць і тут няма патрэбы паўтараць папярэдняе.

Значна цяжэй акрэсліць правы на спадчыну такіх асоб, якія не з'яўляюцца сынамі, роднымі ці прыёмнымі, асобы пакіўшай маёмасць. Практыка валаснога суду мае мала выпадкаў выказацца з такой нагоды, разуменне сялянскай грамады таксама цьмянае. І гэта зразумела. Трэба толькі бліжэй угледзецца ў народнае жыццё, каб пераканацца, што маёмасць, зямельная і рухомая, рэдка застаецца без прамога нашчадка.

Юрыдычныя правы на маёмасць селянін атрымлівае толькі пасьля стварэння сваёй сям'і – адружання. Але калі бяздзетны селянін памірае да падзелу, то яго жонка пакідае сям'ю пакойнага, а яго маёмасць застаецца ў гэтай апошняй. Калі селянін аддзяліўся (што з бяздзетнымі зноў жа бывае вельмі рэдка) і памёр, аставіўшы пасьля сябе жонку ці дочак, то яны маюць магчымасць завалодаць зямлёй, калі застануцца на ёй, прыняўшы да сябе прымака ці здольніка. Толькі ў тым выпадку, калі ні жонка, ні дачка не застаюцца на зямлі, можа узнікнуць справа аб нашчадку. У такім выпадку перадача зямлі залежыць ад вясковай абшчыны, якая далёка не заўсёды глядзіць пры перадачы зямлі на сваяцкія адносіны: яна, праўда, аддае перавагу сваякам пакойнага, але найменш забяспечанаму ці зусім беззямельнаму, прычым блізкасць сваяцтва не мае асаблівага значэння.

Права жанчыны на атрыманне зямлі ў спадчыну залежыць ад двух акалічнасьцей: ідзе яна ў чужую сям'ю, ці не ідзе. У першым выпадку жанчына ніякім чынам не атрымлівае зямлю. Гэта аднолькава адносіцца як да ўдавы, пасля сьмерці чалавека якой, зямля застаецца без нашчадка[52], так і да незамужняй. Так, пры назначэнні апекі над пяццю малалетнімі сіратамі, сярод якіх былі дзве дзяўчынкі, вясковы сход Пабаковічскай абшчыны (Бабруйскі у.) стаў перад пытаннем: хто, па існуючым мясцовым звычаям, павінен лічыцца

---

52) Выпіска із рашэння валаснога суду Гарбацэвічскай воласьці: валасныя судзі на сваім паседжанні слухалі: прашэнне сялянкі вёскі Дзедкава Пелагеі Гаўрылавай Рослік аб адабранні ад яе дзесяціны зямлі, атрыманай яе першым чалавекам жаўнерам Восіпам Шпілем, перададзенай былым старшынёй жаўнерцы Кацярыне Галавач у вёсцы Пабаковічы. На судзе з тлумачэння бакоў і паказанняў сведак выявілася наступнае: Прасіцельніца Пелагея Рослік пасьля сьмерці яе першага чалавека жаўнера Восіпа Шпіля 10 гадоў таму назад выйшла другі раз замуж за селяніна вёскі Дзедкава Парфёна Росліка, які мае гаспадарку і новы ўчастак зямлі: дзесяціна ж зямлі, надзеленая на яе першага чалавека жаўнера Восіпа Шпіля, як пакінутая прасіцельніцай і, так як (прасіцельніца) не мае дзяцей ад першага чалавека, былым старшынёй перададзена жаўнерцы Кацярыне Галавач са згоды грамадства. Пасля слухання справы пастанавілі: дзесяціну зямлі, надзеленую і запісанную па паперах пры вёсцы Пабаковічы на салдата Восіпа Шпіля, які пасля сьмерці не пакінуў нашчадкаў і яго жонка Пелагея Гаўрылава выйшла другі раз замуж у вёску Дзедкава, у дамаганні ёй адмовіць, зямлю прызнаць за жаўнеркай Кацярынай Галавач.

нашчадкам застаўшайся маёмасьці? Сход вырашыў, што існуе такі мясцовы звычай па наследаванню маёмасьці: “прамымі нашчадкамі лічацца дзеці мужчынскай стаці, а жанчыны маюць права атрымаць із маёмасьці толькі пры выхадзе ў замужаства адпаведную стану выправу, але жанчына атрымальніца спадчыны, застаўшаяся на гаспадарцы бацькі і прыняўшая да сябе прымака, мае роўныя правы на спадчыну з прадстаўнікамі мужчынскай стаці; такі звычай наследавання і прымяніць да Селіванавічаў”.

Рашэнне сходу, так жа як і рашэнне суду, прыведзенае ў зносцы, поўнасьцю паказваюць народны погляд на атрыманне спадчыны жанчынамі; трэба дадаць толькі, што такі погляд распаўсюджаны паўсюдна ў вывучаемым намі рэгіёне і няма неабходнасьці далей прыводзіць цытаты.

Можна дабавіць, што спасылка на “мясцовыя звычаі” асабліва часта сустракаецца ў справах, закранаючых атрыманне спадчыны жанчынамі: валасны суд, ці вясковы сход, безумоўна ведаюць, што мясцовы звычай у дадзеных выпадках не зыходзіцца з пісаным правам, а таму асабліва настойліва згадваюць пра яго.

Пакуль высвятляецца, застанецца ўдава ці дзяўчына на зямлі, ці пойдзе ў іншую сям’ю, яна захоўвае ўсе спадчынныя правы на зямлю[53].

Калі па маленству дзяцей зямля бацькі была захоплена кім-небудзь іншым, то дочкі маюць права патрабаваць зямлю назад (Пінск). Калі дочак некалькі, то ўсе яны прызнаюцца спадкаемцамі ў роўных часьцінах (Пінск). Пры падзеле дачка ці маці, прыняўшыя прымака, прыраўноўваюцца ў правах на зямлю да іншых членаў сям’і: вядома шмат выпадкаў, калі жанчына атрымала такую ж частку зямлі, як і браты. Із адной справы відаць, што дачцэ была дадзена роўная частка з прымаком-сем’янінам, прынятым яе бацькай да сваёй пляменіцы – “на аснове мясцовых звычаяў”. У іншым выпадку суд падзяліў дачку

53) Прывядзем яшчэ адно судовае рашэнне, цікавае па сваёй складанасьці. Абставіны справы наступныя: пасьля сьмерці селянін вёскі Атрошкавічы Васіль Сямёнаў Рудзько родных дзяцей не пакінуў, а толькі падчарыцу Магдаліну Восіпаву і яе чалавека Пятра Ашурка, якія і валодалі да сваёй сьмерці маёмасьцю Рудзько, а пасьля іх сьмерці засталіся дочкі: Домна, Пелагея, Макрына, Агрыпіна і Фрузіна. На старэйшай з іх Домне ажаніўся селянін вёскі Пятровіч Лука Барадзін і завалодаў маёмасьцю Васіля Рудзько. Так як пляменік апошняга Ілля Рудзько па X народнаму перапісу запісаны ў сямействе дзядзькі, то ён і выказаў правы на маёмасць Васіля Рудзько. Зараз на судзе селянін Лука Барадзін патлумачыў, што 7 гадоў таму назад, пасьля сьмерці Пятра Ашуркі, ён быў наймітам у гаспадарцы Ашуркі, а потым застаўся гаспадаром, калі ажаніўся на старэйшай дочцы Пятра Домне і валодаў маёмасьцю па праву спадчыны жанкі Домны Пятровай. Ілля Рудзько патлумачыў, што раней не выказваў правы на маёмасць дзядзькі Васіля Рудзько, так як быў прыёмышам у вёсцы Забудзькі Гарадкоўскай валасьці, але па падрастанні сыноў цесьця і выцясьнення яго з гаспадаркі цесьця, ён застаўся беззямельным і выказаў правы на маёмасць дзядзькі у 1883 годзе і з тых пор справа разглядалась некалькі разоў вясковым сходам і валасным судом. Сведкі падцвердзілі скаргу Іллі Рудзько. Пасля высвятлення акалічнасьцей справы суд вырашыў: хаця сапраўды па X народнаму перапісу па вёсцы Атрошкавічы ў адным сямействе запісаны Васіль Рудзько, яго пляменік Нікіфар з пафеткай “рэкрут” і сын апошняга Ілля і па выкупных паперах участак зямлі запісаны на Васіля Рудзько, але так як Ілля Рудзько не жыў у сямействе Васіля, а жыў прыёмышам у дачкі Магдаліны Пятро Ашурка і ад іх засталіся дзеці Домна, Пелагея, Макрына, Агрыпіна і Фрузіна, суд пастанавіў: усю маёмасць Васіля Рудзько пакінуць на карысць дзяцей Пятра Ашуркі: Домны, Пелагеі, Макрыны, Аргыпіны і Фрузіны.

і яе чалавека-прымака з маці, таксама прыняўшай прымака, і вызначыў ім, карыстацца роўнымі часьцінамі (Пінск).

Такім чынам, правы дочак на зямлю абмяжоўваюцца толькі такімі выпадкамі, калі бацька, аддзяліўшыся ад сваёй сям'і, не пакідае нашчадкаў мужчынскай стаці і калі дочкі застаюцца на сваёй зямлі, прынімаючы да сябе прымакоў: у такіх жа адносінах стаіць жонка да зямлі чалавека.

Для паўнаты застаецца адзначыць аб спадчынных правах па жаночай лініі. У гэтым дачыненні можна гаварыць толькі пра рухомую маёмасць. Матчына выправа і зберажэнні пераходзяць да дочак і нават маці не можа забраць выправу сваёй пакойнай дачкі, калі ў апошняй самой засталіся дочкі, калі іх няма, то выправа вяртаецца ў родную сям'ю.

Звычайнае права, у розных кутках вывучаемага рэгіёну, глідзіць на апеку аднолькава, на тое, хто можа быць апекуном і на яе сутнасць. Разнастайнасць адзначаецца не столькі ў разуменні звычайным правам сваёй задачы, колькі ў чыста знешніх адзнаках: у адных месцах, пераважна ў паўднёвых, вясковы сход выносіць вусныя прысуды, у іншых – усякі прысуд заносіцца ў адпаведную кнігу валаснога праўлення. Вышэйшы нагляд над сіратамі знаходзіцца ў кампетэнцыі вясковага сходу.

Для яго апека мае дваякае значэнне: ён назірае за "выхаваннем" сірат, г. з. за тым, каб было іх каму апранаць і карміць і за сваечасовую выплату падаткаў з таго ўчастку зямлі, які належыць падлеткам; да гэтага трэба далучыць і турботы аб захаванні апякаемай маёмасьці, як рухомай, так і нерухомай. Калі сіраты не запясьпечаны зямлёй, то сход стараецца ўладкаваць іх прыёмышамі ў найбольш заможныя сем'і.

Калі трэба назначыць апеку, сход збіраецца і выносіць прысуд, у якім называюцца імёны апекуноў, пералічваецца рухомая і нерухомая маёмасць апякаемых, вызначаецца тэрмін апекі (да паўналецця старэйшага з апякаемых хлопчыкаў, ці да адружання дзяўчат) і даюцца парады аб тым, каб маёмасць была захавана ў цэласьці і падаткі выплочвалісь своечасова. Няма нідзе згадак на тое, што апякаемыя павінны атрымліваць нешта падобнае на арэндную плату з зямлі; апякун павінен толькі даглядаць іх і плаціць іхныя падаткі; нават із быдла да канца апекі ён павінен захаваць толькі тую колькасць, якую атрымаў на папячэнне, рэдка гаворыцца пра тое, што прыплод складае маёмасць дзяцей. Такім чынам за дагляд за падлеткамі апякун атрымлівае даход ад зямлі і маёмасьці.

Аднак, усе гэтыя складаныя фармальнасьці апекі бываюць толькі ў тым выпадку, калі ў сям'і не засталося старэйшага, гаспадара: сярод шматлікіх прысудаў не давялося сустрэць такога, які б даручаў апеку старэйшаму брату – прадстаўніку сям'і, дзядзьку ў непадзеленай сям'і і г. д. Зразумела, што грамадскасць не лічыць патрэбным умешвацца ў справы сям'і: застаўшыйся яе старэйшы прадстаўнік і будзе апекуном падлеткаў і плацельшчыкам падаткаў. Сустракаюцца выпадкі даручэння апекі прыёмышу над дзецьмі прыёмнага бацькі, ці прымаку, прыйшаўшаму ў хату да старэйшай із малалетніх ужо пасьля

сьмерці бацькі. У такім выпадку да чалавека пераходзіць апека і над жонкаю да падзелу яе з астатнімі сунасьледнікамі, ці да іх паўналецця.

Калі ў малалетніх ёсць маці то дзеці даручаюцца ёй, а вядзенне гаспадаркі ўскладаецца на асабліва вылучаных апекуноў у тым выпадку, калі маці не мае намеру вясьці яе самастойна. Так, у адным выпадкуі, вясковы сход прызначыў апекунамі маці і яшчэ двух сялян, хаця вышэйшы нагляд ён пакінуў за сабой. Можна, нават, прывесьці рашэнне сходу, прызначаючага апекуна пры жывой маці дзяцей без указання на тое, ці захоўвае яна права апекі над дзецьмі, ці адхіляецца. Але гэтыя адзінкавыя выпадкі, могучыя быць растлумачаны якімісьці асаблівымі ўмовамі, не змяняюць, аднак, паўсюдна распаўсюджанага ўяўлення, па якому маці мае неадʼемнае права апекі: яна клапоціцца аб маёмасьці, здзяйсняе за апякаемых пагадненні і інш[54].

Іншая справа, калі сходу прыходзіцца клапаціцца аб сіратах не толькі па бацьку, але і па маці. У такіх выпадках ён прызначае апекунамі бліжэйшых сваякоў і узмацняе нал імі кантроль, замяняе іх і г. д.

Неабходна адзначыць яшчэ і тое, што вясковы сход бярэ ў апеку толькі сірат. Вядомы выпадкі, калі сход прызначае апеку над сямʼёй, прадстаўнік якой хворы, весьці гаспадарку не можа, а ў сямʼі адны малалетнія, без гаспадыні[55].

Апякун павінен, як сказана, назіраць за дзецьмі і захоўваць маёмасць. Апека заканчваецца, калі дзяўчына выходзіць замуж, а хлопец жэніцца. У адносінах да першых: калі дзяўчына ідзе ў чужую сямʼю, апякун павінен даць ёй

---

54) Прывядзем з гэтай нагоды рашэнне Гарбацэвічскага валаснога суду (1891г.): сялянка вёскі Старынок Пелагея Курыльчык скардзілася на братоў пакойнага яе чалавека Усьціна, Лявона і Рыгора Курыльчыкаў, якія забралі ў сваё карыстанне ўсю зямлю, а ёй нічога не даюць, так што не мае зямлі пасеяць бульбу. Так як пасьля сьмерці чалавека застаўся сын Антон 14-ці гадоў – яна жадае аддаць яго да дзядзькі, г. зн. да брата яе чалавека Усьціна Курыльчыка, чаму і просіць суд належную частку зямлі перадаць у карыстанне Усьціна, у якога будзе жыць яе сын Антон. Адказчыкі паказалі: Усцін, што ён згодны прыняць да сябе Антона з тым, каб частка яго зямлі знаходзілася ў яго; Лявон, што згодны аддаць частку Антону пасля яго дарослaсьці; Рыгор, што ён засеяў адзін загон бульбы Пелагеі, а больш даваць не хоча. Валасны суд пасля слухання бакоў прапанаваў скончыць справу мірам, але праз адсутнасць такога, прызнаў скаргу Пелагеі абгрунтаванай і вырашыў: даць Усьціну Курыльчыку права карыстацца ¼ часткай зямлі із агульнага надзела, належачай малалетнім Курыльчыкам з тым, што яны павінны будуць знаходзіцца на поўным яго утрыманні.

55) 1877 год, красавік 21 дня. Мы, ніжэйпадпісаўшыяся сяляне вёскі Баяры, сабраўшыся на вясковы сход і ў прысутнасьці нашага вясковага старасты, разважалі паміж сабой аб тым, наш аднавясковец селянін Рыгор Рудзяк зусім хворы, так, што няма ніякай надзеі на яго папраўку і ён не мае жонкі, а мае траіх малалетніх дзяцей – сына Васіля і дочак Матрону і Проську, за якімі патрэбны дагляд, а таксама і за самім Рыгорам, для чаго аднагалосна вырашылі: для дагляду за Рыгорам Рудзяком і яго дзецьмі назначыць апекуна селяніна вёскі Бояр Сямёна Шылянка з тым, што ён павінен пры ўсіх узяць да сябе на сваё папячыцельства зямлю, належачую Рыгору Рудзяку, ½ надзела аддаць у карыстанне Шылянку на восем гадоў. Сямён павінен плаціць за Рыгора ўсе казённыя падаткі і выкупны плацёж за зямлю, а так як у Рыгора Рудзяка ёсць рухомая маёмасць: два валы, адна карова і адна свіння, жылая хата, клець, варыўня і хлявок, то яны павінны знаходзіцца ў веданні Сямёна Шыленка тэрмінам на 8 гадоў, а па заканчэнні гэтага тэрміну, калі сын Васіль будзе паўналетні, Сямён Шылянок павінен зямлю яму вярнуць, а таксама рухомую маёмасць; Будынкі Шылянок павінен падтрымліваць, каб не рабіліся трухлявымі. Зараз жа за Рыгорам лічыцца шмат казённых недаімак, а ён не мае грошай каб іх заплаціць, пагэтаму Шылянку даецца дазвол прадаць аднаго вала і заплаціць недаімкі; калі Рыгор памрэ, то Шылянок павінен пахаваць яго па хрысьціянскаму абраду.

выправу “па багаццю”. Калі дзяўчына жыве ў сям’і брата, то той жа абавязак ляжыць на ім.

---

Мы разгледзелі лад беларускай сям’і і нормы звычайнага права, якімі яна рэгулюецца. Наш беглы агляд дастаткова сведчыць, што звычай у цяперашні час слабее ў сялянскім асяродзі, уступаючы новым умовам. Але і тое што засталося ў сучаснасьці, прадстаўляе глыбокую навуковую цікавасць, якая можа яшчэ больш узрасьці, пры сапастаўленні сучаснасьці і мінуўшчыны. Побач з сямейнай абшчынай, складаючайся з родзічаў, у сялянскім асяроддзі існуе абшчына, штучна складзеная. Пратаціп такой сям’і можна безпамылкова ўбачыць ў дворышчах-службах перыяду Літоўска-рускай дзяржавы: у аснове сваёй дворышча мела сямейны характар, хоць і тады сябры не заўсёды былі звязаны кроўным радством. У XV-XVI ст. пераважаючай формай сялянскага землевалодання - было складанае дворышча, але яно, як тады так і цяпер, не існавала побач з формай малой сям’і. Больш таго, можна нават паказаць на тое, што спосабы і прычыны ўтварэння сямейнай абшчыны некалькі вякоў таму назад часта супадалі з цяперашнімі: прыём у сям’ю “за сына месца”, як выказваюцца дакументы, вялікі надзел пры малым ліку працоўных рук і відавочныя перавагі сябрынскага валодання – заахвочвалі аб’ядноўвацца некалькі сямей у адно дворышча; наадварот малазямелле, мноства, шматлікасць свабодных працоўных рук прымушалі сям’ю дзяліцца і яе малодшых членаў зыходзіць “на свой хлеб”. У самой арганізацыі сямейнай абшчыны, у характары, напрыклад, улады бацькі, парадку спадчыннасьці, апекі і інш., можна знайсьці тыповыя асаблівасьці, якія лёгка суаднесьці з умовамі аддаленай мінуўшчыны.